ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 36 (92) 4 – 10 лістапада 1994 г. Кошт 50 рублёў

*Пасьля абраньня Прэзідэнтам... у яго даdалося сівых валасоў на галаве і ў вусах.* - ст. 2.

*Запаскуджаная і зґвалчаная рака стала сымбалем нашай злачыннай абыякавасьці.* - ст. 3.

*Камедыянта абралі дэпутатам за хот-догі і піва, якія Якаб фундаваў прысутным.* - ст. 6.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*





## ЗЛАМЫСЬНІКІ НЕ САПСАВАЛІ СЬВЯТА

Сябры Гарадзенскай філіі БНФ "Адраджэньне" супольна з прадстаўнікамі гісторыка-культурнага клубу "Паходня" і члены альтэрнатыўнай ветэранскай арганізацыі Горадні наладзілі шэраг урачыстасьцяў, прысьвечаных народнаму сьвяту памяці продкаў.

Напярэдадні сьвята ў Малой базіліцы Горадні Фарным касьцёле была адслужана імша, якую суправаджаў сваімі сьпевамі хор "Бацькаўшчына".

А ў сьвяточны дзень другога лістапада невялікім гуртом, прыкладна ў 100-150 чалавек, сябры ад БНФ "Адраджэньне", клубу "Паходня" і дэмакратычнай ветэранскай арганізацыі наладзілі шэсьце па цэнтру Горадні з ускладаньнем кветак да брацкай магілы загінуўшых жаўнераў падчас Вялікай айчыннай вайны, а таксама да помнікаў Э.Ажэшкі, Янку Купалу, Р.Шырме, М.Ткачову, воінам-інтэрнацыяналістам, да памятнага знаку "Пагоня на Грунвальд". Ушанавалі ўдзельнікі ўрачыстасьцяў і іншыя памятныя месцы Горадні. Прысутнічалі на перазахаваньні рэштак польскіх жаўнераў на старых польскіх могілках.

На жаль, сьвята было азмрочана актам вандалізму. Невядомымі зламысьнікамі скрадзены адліты з бронзы знак "Пагоня на Грунвальд".

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ГАРАДЗЕНЦЫ Ў БЕЛАСТОКУ

Старшыня Гарадзенскага гарвыканкама Г.Крупенка, яго намесьнік Р.Патапава, прадстаўнікі дзесяці прадпрыемстваў і Саюза прадпрымальнікаў Горадні наведалі кірмаш, які праходзіў у Беластоку. На ім сваю прадукцыю прадстаўлялі польскія фірмы і прадпрыемствы, якія займаюцца вытворчасьцю прадуктаў харчаваньня, сельскагаспадарчай тэхнікі і інвентару.

У рамках кірмашу прайшлі "Дні Горадні", падчас якіх наведвальнікі маглі ўбачыць вырабы чатырнаццаці прадпрыемстваў горада. І хаця тавары не адпавядалі профілю кірмаша, яго арганізатары далі згоду на іх выстаўленьне.

Найбольшую цікаўнасьць у палякаў выклікалі тэлевізары і радыёпрыёмнікі завода "Радыёпрыбор", цэгла завода зборнага жэлезабетону N 10, а таксама прадукцыя тытунёвай фабрыкі, металаапрацоўчага завода, завода "Белдругпалімер". Шаснаццаць польскіх фірм, па папярэдніх дадзеных, ужо выказалі жаданьне супрацоўнічаць з імі.

Прадстаўнікі Гарадзенскага гарвыканкама наведалі Беластоцкі мясакамбінат і піўзавод, азнаёміліся з вытворчым працэсам на іх, а кіраўнікі прадпрыемстваў сустрэліся з калегамі.

**А.ДУК.**

## ХУТКА БУДУЦЬ НА БЕЛАРУСІ СВАЕ ГЕРОІ

Верагодна, на Беларусі хутка зьявяцца свае нацыянальныя героі. Падставу для гэтага стварыў парламент, адобрыўшы ў першым чытаньні Законапраект аб дзяржаўных узнагародах Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае ўвядзеньне вышэйшай дзяржаўнай узнагароды - званьне Герой Беларусі. Яно будзе прысвойвацца за вялікія заслугі, зьвязаныя са зьдзяйсьненьнем гераічных учынкаў у імя свабоды, незалежнасьці і росквіту дзяржавы. Асобам, заслужыўшым званьне героя, будзе ўручацца медаль "Залатая зорка".

**(Ул.інф.)**

## ПАМЯЦІ ПАЎСТАНЦАЎ

Створаны Аргкамітэт па сьвяткаваньню 74-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну. Яго заснавалі Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне", Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская Хрысьціянска-Дэмакратычная Злучнасьць, Беларускі фонд імя Л.Сапегі, Таварыства Беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Мартыралог Беларусі, Згуртаваньне беларускай Шляхты, Беларускае краязнаўчае таварыства, Творчая суполка "Пагоня", Асацыяцыя вольных сродкаў масавай інфармацыі, Культурны Асяродак "Беларусь" г.Алма-Аты.

Старшынёй Аргкамітэту абраны старшыня Менскай гарадзкой Рады ТБМ імя Ф.Скарыны М.Савіцкі. Сярод мэт Аргкамітэту - вывучэньне гісторыі Слуцкага збройнага чыну і лёсу яго ўдзельнікаў, правядзеньне сьвяточных мерапрыемстваў і ўшанаваньне памяці паўстанцаў у месцах, зьвязаных са змаганьнем за Беларускую Народную Рэспубліку.

**Ул.інф.**

## 15 СТРЭЛАЎ ПА ВОКНАХ БЕЛАГА ДОМУ

Як спробу тэрарыстычнага акту супраць Прэзідэнта ЗША расцаніла Пракуратура Вашынгтона 15 стрэлаў з рэвальвера нейкага Марцінэса - амерыканца гішпанскага паходжаньня - па вокнах прэс-цэнтра Белага дому.

На шчасьце, Прэзідэнта ў гэты час у прэс-цэнтры не было. Не пацярпелі і рэпарцёры, што чакалі Б.Клінтана на ранішнюю прэс-канферэнцыю.

**(Ройтэр).**

## ПАСОЛ ЗША ПРЫНЯЎ ПРЫСЯГУ

Кэнэт Спэнсэр Ялавіц, дыпламат па прафесіі, прыняў прысягу як пасол Злучаных Штатаў Амерыкі ў Рэспубліцы Беларусь. Падчас свайго першага выступу пасьля прысягі спадар Ялавіц сказаў, што ён вельмі задаволены магчымасьцю працаваць на Беларусі менавіта зараз і будзе накіроўваць галоўныя высілкі сваёй дыпламатычнай дзейнасьці на мацаваньне добрых узаемаадносін паміж Беларусьсю і ЗША, садзейнічаць дэмакратызацыі беларускага грамадзтва, замацаваньню дзяржаўнага суверэнітэту і больш хуткаму пераходу дзяржавы да рынкавай эканомікі.

Дыпламатычную дзейнасьць надзвычайны і паўнамоцны пасол ЗША ў Беларусі плануе распачаць шостага лістапада.

**Г.Д.**

*ЗДАРЭНЬНІ*

## ДВА ТРУПА І СПАЛЕНЫ ХУТАР

Жудаснае злачынства ўчынена ў Слонімскім раёне.

Там у пятніцу вечарам на адзінокім лясным хутары ля в.Харошавічы, дзе пражывалі дзьве адзінокія сястры, якія трымалі ладную гаспадарку з трох кароў і двух цялушак, узьнік пажар. У выніку згарэла ўсё дашчэнту: хата, хлеў і нават сабачая будка.

Уважліва праведзены агляд месца здарэньня прынёс жудасныя вынікі: на папялішчы хлява былі знойдзены рэшткі трупа маладзейшай, 66-гадовай сястры... з уваткнутымі ў абвугленую шыю віламі.

Агляд другога папялішча спачатку не даў вынікаў, але потым... толькі дадаў загадак: на месцы спаленай хаты быў знойдзены амаль згарэлы труп старэйшай, 70-гадовай сястры, з расьсечаным чэрапам.

Пошукі злачынцаў праходзілі маштабна і энергічна, з удзелам вайскоўцаў, якія, прачэсваючы блізляжачы лес, знайшлі частку хатніх рэчаў пацярпелых. Адразу ўзьнікла найбольш верагодная версія - забойства з мэтай абрабаваньня.

Крок за крокам, гадзіну за гадзінай пошукавая група зьбірала ўсё новыя і новыя пасьведчаньні аб учыненым злачынстве.

Праз суткі былі ўстаноўлены асобы, якія на калгаснай фурманцы дапамагалі вывозіць нарабаваныя рэчы няшчасных.

А сам забойца, 44-гадовы цыган з мясцовай вёскі Міцькавічы, што ў дзесяці кіламетрах ад спаленага хутара, кінуўся наўцёкі. Але аператыўная група ўжо ішла па яго сьледу.

У нядзелю а 11-ай гадзіне забойца быў злоўлены ў наваколіцы сваёй вёскі асабіста начальнікам Слонімскага ГРАЎС Ф.Боцікам.

Аб іншых падрабязнасьцях гэтай крывавагненнай справы чытачам будзе паведамлена дадаткова.

**Георг СЫСОЙ.**

## "ЗЯЛЁНУЮ ВУЛІЦУ" КАНТРАБАНДЫСТАМ АДКРЫЛІ МІЛІЦЫЯНТЫ

У ляску непадалёк дарогі Горадня-Друскенікі, на летувіска-беларускай мяжы затрыманы КамАЗ з аўтацыстэрнай, у якой знаходзілася 13 тон сьпірту-рэктыфікату. Цягач і аўтацыстэрна былі арэндаваны ў каданайскім акцыянерным таварыстве "Аграпярвежымай". За рулём знаходзіўся Р.Бальявічус. Груз суправаджалі ковенцы Т.Буда і В.Матузас.

Высьветлілася, што Т.Буда і В.Матузас мелі паўнамоцтвы ад беларускай фірмы "Міндаўгас" на закуп 13 тон сьпірту ў ковенскага дзяржаўнага прадпрыемства "Стумбрас".

Друскенінкайская пракуратура завяла крымінальную справу. У ходзе сьледзтва высьветлілася, што на тэрыторыі Беларусі фірма "Міндаўгас" не зарэгістравана. Таксама выяўлена, што перасякаць нелегальна мяжу на беларуска-летувіскім памежжы дапамагалі трое паліцэйскіх з Друскенік, якія на адлегласьці 800 метраў ад КП "Прывалка" уласнаручна засыпалі загараджальны роў для беспераШкоднага перагону аўтамашыны.

**(Ул.інф.)**

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ШТО ДАЛІ БЕЛАРУСКАМУ НАРОДУ ПЕРШЫЯ СТО ДЗЁН ПРЭЗІДЭНЦТВА

**Заява**
**Выканаўчага Камітэта Цэнтральнай Рады**
**Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады**

Прайшлі першыя сто дзён з моманту заступленьня на пасаду першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнкі і пачатку выкананьня яго праграмы пад гучнай назвай "Адвесьці народ ад бездані".

Гэты час поўнасьцю пацьвердзіў, што Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада, на жаль, не памылілася ў сваіх песімістычных ацэнках і прагнозах.

Абяцаньні кандыдата на пасаду Прэзідэнта ўтаймаваць інфляцыю, спыніць зьбядненьне насельніцтва і адмовіцца ад выпуску ў абарачэньне пустых грошай абярнулася на справе шматмільярднай эмісіяй не забясьпечаных таварнай масай рублёў, як быццам бы для падтрымкі сельскай гаспадаркі, але, як і раней, грошы да сельскага працаўніка не дайшлі, а трапілі на валютную біржу. У выніку курс беларускага рубля з 2800 рублёў за 1 долар ЗША на 22 ліпеня ўпаў да 7030 рублёў за 1 долар на 24 кастрычніка.

Мафія нажыла вялікія капіталы, а сярэдні заробак нашых грамадзян за тры апошнія месяцы ўпаў з 30 да 20 долараў.

Адначасова рэзка ўзрасьлі цэны на прадукты харчаваньня, на праезд, паліва, камунальныя паслугі і гэтак далей. Ніякіх прыкмет спыненьня росту цэн не назіраецца.

Адной з галоўных мэт у праграме кандыдата была барацьба з карупцыяй, разгром мафіёзных структур, якія, паводле яго слоў, кіруюць у дзяржаве.

Але Прэзідэнт не толькі нікога не прыцягнуў да адказнасьці з былога карумпіраванага кіраўніцтва Беларусі, а яшчэ і прызначыў у свой урад такіх вядомых прадстаўнікоў "каманды Кебіча", як Лінга, Мясьніковіча, Заламая, Куранкова і іншых.

Стаўшы Прэзідэнтам пад лозунгам стварэньня народнай улады, А.Лукашэнка пазбавіў народ права выбіраць старшынь выканкамаў мясцовых Саветаў прамымі выбарамі, пайшоўшы на іх прызначэньне чыста бюракратычным шляхам. Такая незалежнасьць чыноўніцтва ад народнага волявыяўленьня непазьбежна прывядзе да яшчэ большай безадказнасьці і разбэшчанасьці наменклатуры і да яшчэ большага бяспраўя простага чалавека.

Паабяцаўшы дабівацца аднаўленьня парушаных сувязей, імкнуцца да інтэграцыі краін СНД, кіравацца ў зьнешнепалітычнай дзейнасьці карэннымі інтарэсамі народа Беларусі, Прэзідэнт так і не здолеў падыйсьці да вырашэньня пытаньня аб забесьпячэньні Рэспублікі энергарэсурсамі на асеньне-зімовы перыяд. Запазычанасьць перад Расейскай Федэрацыяй за энерганосьбіты перавысіла 500 мільёнаў долараў.

У той жа час збор транзітных падаткаў, плацяжоў за знаходжаньне на нашай тэрыторыі ваенных баз Расейскай Федэрацыі мог бы даць дзяржаве больш як 2 млрд. долараў за год. Мабыць, Прэзідэнту прасьцей пакінуць сваіх грамадзян у халодных кватэрах, чым запатрабаваць ад "старэйшага брата" таго, што належыць нам па праву. Гэта адна з прычын таго, што Беларусь сёньня - ндбайнейшая дзяржава ў Эўропе. Адзінае, у чым Прэзідэнт меў "посьпех", - гэта ў спрыяньні актывізацыі антыбеларускіх сіл. Выступленьні А.Лукашэнкі паслужылі сігналам для наступу вялікадзяржаўных шавіністаў і праціўнікаў незалежнасьці Беларусі на беларускую школу і культуру, на дзяржаўны статус беларускай мовы.

Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада, якая распрацавала праграму рэформ, згодна з якой сярэдні заробак на працягу года дасягнуў бы 100-150 долараў ЗША, а жыцьцёвы ўзровень зраўняўся б з дзяржавамі Балтыі і Усходняй Эўропы, ніколі не зьмірыцца з такім становішчам у нашай дзяржаве.

Мы прыкладзем усе намаганьні, каб разам з іншымі дэмакратычнымі сіламі перамагчы на выбарах у Вярхоўны Савет і такім чынам забясьпечыць рэалізацыю нашай праграмы па паляпшэньню дабрабыту людзей шляхам умацаваньня дзяржаўнасьці, дэмакратыі і рыначнай эканомікі.

25 кастрычніка 1994 года

## А.ФЯДУТА ЛЮБІЦЬ «СВАБОДУ» І НЕ СУПРАЦЬ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

На мінулым тыдні ў Горадні знаходзіўся начальнік упраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Фядута. Падчас знаходжаньня ў горадзе над Нёманам ён сустрэўся з старшынёй Гарадзенскага аблсавета С.Домашам, мэрам Горадні Г.Крупенка, рэдактарам газеты "Гродзенская праўда" І.Багіна.

Завітаў А.Фядута і ў месцы, якія сталі своеасаблівым трамплінам у яго кар'еры: сярэднюю школу N 20, дзе на працягу пяці год працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры, і Гарадзенскі Дзяржаўны ўніверсітэт, у якім скончыў рускае аддзяленьне філалагічнага факультэта. Падчас сустрэч з выкладчыкамі і навучэнцамі гэтых навучальных устаноў прэс-сакратар Прэзідэнта адказаў на пытаньні прысутных. Больш цікавыя адказы госьця, на думку рэдакцыі, прапануюцца чытачам.

"Один из лучших студентов филфака" (па вызначэньню рэктара ГрДУ Л.Ківача) не ўсьведамляе сябе веруючым чалавекам і не ведае, ці дасягнуў сваёй мэты; "глыбока ўпэўнены, што інтэлігентнаму чалавеку не пашкодзіць ведаць некалькі моў", таму не супраць дзяржаўнасьці беларускай мовы і лічыць "не зусім дакладным абяцаньне А.Лукашэнкі аб увядзеньні двухмоўя"; выступае за вольную прэсу; не лічыць "Знамя юности" апазіцыйным і дэмакратычным выданьнем і ахарактарызаваў газету як "шэрую"; вельмі любіць чытаць і нават выпісвае "Свабоду", хаця вызначыў яе як "жоўтую".

Прысутныя таксама даведаліся ад А.Фядуты, што з 112 работнікаў Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі 90 чалавек - беларусы ("русских не очень много"); што ён асабіста супраць таго, каб была прэзідэнцкая партыя; "бачыў Аляксандра Рыгоравіча кожны дзень пасьля абраньня Прэзідэнтам, і заўважыў, што ў яго дадалося сівых валасоў на галаве і ў вусах"; лічыць, што Лукашэнка на працягу 100 дзён знаходжаньня ва ўладзе зрабіў шмат: "узяў на сябе ўдар лібералізацыі цэн, высьветліў, што нам не дапаможа Расея" і іншае, што Прэзідэнт не любіць, калі ён ужывае выраз "состояние вялотекущей гражданской войны".

Студэнтам, на думку А.Фядуты, не трэба скардзіцца на нізкі памер стыпендыі, бо "наш прэм'ер атрымлівае зарплату ў памеры 70 долараў". Прэс-сакратар Прэзідэнта Беларусі паведаміў таксама, што на ўтрыманьні дзяржавы застануцца толькі такія рэспубліканскія выданьні, як "Зорька", "Бярозка", "Вясёлка", "Пралеска", "Голас Радзімы", часопіс "Беларусь", "Народная газета", "Звязда" і "Рэспубліка", а таксама тыя, заснавальнікамі якіх зьяўляюцца некаторыя міністэрствы.

Пасьля візіту ў Горадню А.Фядута накіраваўся на Берасьцейшчыну.

## СОЙМ ВЫЗНАЧАЕ ПРЫЯРЫТЭТЫ

Напрыканцы кастрычніка ў Менску адбыўся чаргові Сойм Беларускага народнага фронту "Адраджэньне".

На Сойме былі абмеркаваны два асноўныя пытаньні: грамадзка-палітычная сітуацыя на Беларусі, эканамічнае становішча, а таксама дадзена ацэнка 100 дням прэзідэнцкай улады.

Па першаму пытаньню выступіў старшыня БНФ спадар Зянон Пазьняк. У прыватнасьці, ён зазначыў, што ў эканоміцы не адбылося аніякіх зьмен, аб гэтым сьведчыць настрой у грамадзтве. Цэнавая палітыка Прэзідэнта і яго каманды - гэта валюнтарызм. "Прыклад - неразумны пад'ём цаны на беларускую гарэлку", - зазначыў З.Пазьняк.

Са сваімі меркаваньнямі аб сацыяльным, палітычным і эканамічным становішчы ў дзяржаве выступілі спадары І.Нікітчанка, А.Станкевіч, Ю.Хадыка, Ул.Анцулевіч, В.Івашкевіч.

У заключэньне Сойму была прынята прапанова спадара З.Пазьняка, якая тычылася выбараў. Зянон Станіслававіч прапанаваў на будучых выбарах у Вярхоўны Савет і мясцовыя органы ўлады з кандыдатамі ад дэмакратычных блокаў заключаць адпаведныя пагадненьні.

**К.ЖЫНЬ.**

## МЫТНЫ КАМІТЭТ СПРАБУЕ ПЕРАКАНАЦЬ

Як вядома, Вярхоўны Савет не даў згоды на прадстаўленьне Дзяржаўнаму мытнаму камітэту права на аператыўна-пошукавую дзейнасьць. Аднак ва ўпраўленьні мытнага камітэту лічаць, што з цягам часу змогуць пераканаць дэпутатаў у неабходнасьці прадстаўленьня такога права.

Намесьнік ДМК Аляксандр Дзеравяшка сказаў: "Мы дабіваемся гэтага права для таго, каб дапамагаць іншым службам змагацца са злачыннасьцю, у тым ліку і з эканамічнай".

## ПРАЕКТ ДАМОВЫ АБ ПЛАЦЁЖНЫМ САЮЗЕ З РАСЕЯЙ НЕ КАНКРЭТНЫ

Намесьнік старшыні Нацбанка В.Заяш у сваім інтэрв'ю заявіў, што дамова аб плацёжным саюзе і ўзаемнай канвертацыі валюты з Расеяй практычна гатова да парафіраваньня. Спадар Заяш адзначыў, што гэта пагадненьне больш дэталёвае, чым шматбаковая дамова аб плацёжным саюзе краін СНД.

Робячы заяву, спадар Заяш не затойваў, што беларуска-расейскаму праекту не хапае канкрэтыкі. Напрыклад, у праекце не прадугледжаны максімальна дапусьцімыя ваганьні курсаў валют адносна адзін аднаго, а таксама механізм падтрымкі курсу.

## «МЫ ПАКУЛЬ НЕ САПРАЎДНЫЯ ЧЛЕНЫ ДАГАВОРУ АБ КАЛЕКТЫЎНАЙ БЯСЬПЕЦЫ»

Менавіта так лічыць старшыня парламенцкай камісіі па пытаньнях нацыянальнай бясьпекі, абароны і барацьбы са злачыннасьцю А.Новікаў. Па яго словах, Міністэрства абароны рэспублікі ўдзельнічае ў рабочых сустрэчах з іншымі ўдзельнікамі Сістэмы калектыўнай бясьпекі, але ніякіх практычных мер па выкананьню дамовы не прымаецца.

## ПРЭЗІДЭНЦКАЯ СЛУЖБА КАНТРОЛЮ ЗАЦІКАВІЛАСЯ НАКам

Адміністрацыя Прэзідэнта ў гэты час завяршае праверку разьмеркаваньня валютных сродкаў НАКам Беларусі. Па інфармацыі, атрыманай кантралёрамі, НАК на працягу доўгага часу меў рахунак у Швейцарскім банку. Там захоўваліся сродкі, атрыманыя ад НАКа "на адміністратыўныя расходы".

Рахунак быў адкрыты без дазволу НББ, што зьяўляецца значным парушэньнем заканадаўства. Акрамя таго, сталі вядомымі факты выкарыстаньня НАКам сум наяўнай валюты.

## БЕЛАРУСКІ АФІЦЭР – НЕ РОЎНЯ ЎКРАІНСКАМУ І РАСЕЙСКАМУ

Адбылася нарада афіцэраў цэнтральнага апарату Міністэрства абароны Беларусі, на якім абмяркоўвалася "сітуацыя, якая склалася ў выніку рэфарміраваньня Ўзброеных сіл".

Як паведаміў прадстаўнік прэс-службы Мінабароны, размова ідзе перш за ўсё аб эканамічным становішчы афіцэраў. Было прынята рашэньне, каб усе члены калегіі Міністэрства выехалі ў вайсковыя часткі для вывучэньня думкі афіцэраў і сітуацыі на месцах.

Па зьвестках газеты "Во славу Родины", у верасьні каманьдзір узвода ў Расеі атрымліваў 244 тысячы расейскіх рублёў, на Ўкраіне - 1 мільён 488 тысяч украінскіх карбованцаў, а на Беларусі - 92 тысячы беларускіх рублёў. Пры супастаўленьні заробкаў высьвятляецца, што беларускія афіцэры атрымліваюць у 2,35 раза менш за ўкраінскіх і ў 5 разоў менш за расейскіх.

## КІРАЎНІЦТВА ПАМЕЖНЫХ ВОЙСК РАСЕІ ПЕРАДАЛО ЛУКАШЭНКУ КАНФІДЭНЦЫЯЛЬНУЮ ПРАПАНОВУ ЕЛЬЦЫНА

Аб гэтым паведаміў у інтэрв'ю беларускаму тэлебачаньню Прэзідэнт Беларусі падчас візіту ў Кіеў. Аб характары прапановы нічога не вядома, аднак Лукашэнка ўзгадаў, што "ўжо зараз Расея прадае нам усё неабходнае для памежных войск па ўнутрырасейскіх цэнах, гэта значыць, практычна ў два разы таньней".

Па выніках перамоў кіраўніка памежных войск Расеі У.Нікалаева з камандуючым беларускімі памежнымі войскамі палкоўнікам В.Маркоўкіным быў падпісаны пратакол, з якога вынікае, што Беларусь будзе імкнуцца стварыць на мяжы з Латвіяй, Летувой, Польшчай памежны рэжым, аналагічны расейскаму на Латвійскай мяжы. Бакі дамовіліся таксама аб узаемадзеяньні наконт аховы мяжы з Украінай.

## ЛІНГ – СТАРШЫНЯ КАМІСІІ

Па маючыхся зьвестках, Кабінет Міністраў Беларусі прыняў рашэньне аб стварэньні Камісіі па ўстанаўленьню пенсій за асаблівыя заслугі. Старшынёй яе прызначаны віцэ-прэм'ер Сяргей Лінг. Ён на працягу двух месяцаў павінен унесьці на разгляд урада праект палажэньня аб дзейнасьці дадзенага падразьдзяленьня, а таксама прапанову па зьмяненьню заканадаўства, якое рэгулюе адпаведныя пенсійныя ільготы.

## У ПРЭЗІДЭНТА СКРАЛІ «BMW»

Невядомыя зламысьнікі скралі аўтамабіль у прэзідэнта прыватнай тэлекампаніі "Рамас" Г.Гаўрыса. Сам пацярпелы не ведае дакладна, калі быў адагнаны яго "BMW-318", які знаходзіўся пад вокнамі кватэры. Спадар Гаўрыс паведаміў у міліцыю толькі арыентыровачны час прапажы: у перыяд з 15 па 17 кастрычніка.

## БЕЛАРУСЬ НЕ ХУТКА РАЗЬЛІЧЫЦЦА ЗА ЭНЕРГАНОСЬБІТЫ

Праблема запазычанасьці Беларусі за расейскія нафту і газ стала галоўнай тэмай перагавораў, якія адразу пасьля маскоўскай сустрэчы кіраўнікоў краін СНД правялі Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка і прэм'ер-міністр Расеі В.Чарнамырдзін. Сталі вядомыя яе падрабязнасьці. У адказ на жорстка пастаўленае Чарнамырдзіным пытаньне аб запазычанасьці Лукашэнка, па яго ўласнаму сьведчаньню, адказаў літаральна наступнае: "Ты меня можешь разорвать, как лягушку, но я тебе полмиллиарда долларов не отдам - у меня их просто нет".

Прэзідэнт лічыць, што адной з віноўніц буйной беларускай запазычанасьці зьяўляецца сама інтарэс да беларускай прадукцыі. Таму, як лічаць беларускія кіраўнікі, расейскі бок павінен спагадліва паставіцца да запазычанасьцей беларускіх партнёраў і будаваць з імі асаблівы тып адносін, які адрозьніваецца ад тых, што існуюць ў Расеі з іншымі краінамі.

"Мы не зможам вытрымаць сусьветную цану на нафту і газ - мы проста не перазімуем, - сказаў А.Лукашэнка, каменьціруючы вынікі сустрэч з расейскім кіраўніцтвам. - Тым больш, я не змагу выканаць свае абяцаньні і запусьціць з 1 студзеня прастойваючыя прадпрыемствы".

## АШЧАДБАНКУ ЗАБАРАНІЛІ ...

Старшыня Дэпартаменту банкаўскага нагляду, намесьнік старшыні НББ У.Сідараў заявіў, што на пэўны час Ашчадны банк не мае права выдаваць крэдыты юрыдычным асобам. За банкам захоўваецца права выдаваць міжбанкаўскія крэдыты і крэдыты на жыльлёвае будаўніцтва фізічным асобам. Па словах спадара Сідарава, асновай для санкцый паслужылі недахопы ў крэдытаваньні.

## РЫХТУЕЦЦА АМНІСТЫЯ ВАЛЮТНЫХ СРОДКАЎ

Кабінет Міністраў Беларусі ў бліжэйшы час мае намер зьвярнуцца з прапановай да парламенту аб прыняцьці пастановы ці нават спецыяльнага закону аб амністыі валютных сродкаў грамадзян. Іншымі словамі, у выпадку прыняцьця Вярхоўным Саветам адпаведнага рашэньня ўсім, хто мае валютныя рахункі за мяжой ці захоўвае свае долары ў панчосе, будзе прапанавана пакласьці СКВ у любы з банкаў Беларусі. Праўда, па зьвестках, якія ёсьць, бесперашкодна адкрываць у беларускім банку валютны рахунак можна будзе на суму, якая не перавышае 25 тысяч долараў, а паходжаньне больш буйных давядзецца тлумачыць фінансавым органам. Урад мяркуе, што вяртаньне валютных сродкаў грамадзян Беларусі з замежных банкаў і патаемных скарбонак істотна выправіць справы ў эканоміцы рэспублікі. Але ж, на думку экспертаў, наўрад ці пасьля амнісьціраваньня валютных сродкаў грамадзян СКВ хлыне на рахункі айчынных банкаў. Укладальнікі ie, нягледзячы на гарантыі ўрада, наўрад ці рызыкнуць вярнуць свае грошы на радзіму да таго часу, пакуль сітуацыя на Беларусі поўнасьцю не стабілізуецца.

**СІМ**







# ДЗЕЦІ ПАМЫЙНІЦЫ

Некалі акадэмік Д.С.Ліхачоў з болем выказаў думку аб тым, што "мы очень часто в последнее время забываем о географическом факторе в человеческой истории. Но он существует, и никто никогда его не отрицал".

Узьдзеяньне краявіду, асаблівасьцей архітэктуры горада ці вёскі, дзе праходзіць жыцьцё чалавека, на фарміраваньне нацыянальнага характару зьяўляецца не проста вельмі важным. Ігнараваньне гэтага ўзьдзеяньня вядзе да немагчымасьці засваеньня культуры свайго народа, адсутнасьці разуменьня нацыянальнай прыналежнасьці, да зьнішчэньня пачуцьця ўласнай індывідуальнасьці (неаднолькавасьці).

Горад і навакольныя абшары - гэта складанае адзінства, якое ствараласяў стагоддзямі. Гэта спадчына, у якой спрэсаваны гістарычны і культурны вопыт многіх і многіх пакаленьняў.

Калі глядзіш на Горадню з маста, што ў заходняй частцы горада, то зьяўляецца ўражаньне, быццам бы ён вырастае з глыбіні вякоў: Каложа, вышэй - Стары замак, яшчэ вышэй - група касьцёлаў, што былі пабудаваны пазьней. У гэтым была свая логіка: адзін час не засланяе другі - ён убірае яго ў сябе, робіць сваёй часткай.

Пры гарад з яго маленькімі, у большасьці драўлянымі забудовамі, зьліваўся з акаляючымі лясамі, ускраіны якіх аздабляліся палеткамі, дзе сыходзіліся чалавек і прырода ў сумеснай працы.

Стоячы на беразе Нёмана, горад у тым месцы, дзе ў яго ўпадае Гараднічанка, нібыта ўцягваецца ў рух вады, у рух часу, усё больш убіраючы ў сябе здабыткі чалавечага жыцьця. Такое ўзаемадзеяньне архітэктуры і прылягаючых абшараў - вынік мудрай фізічнай і духоўнай працы нашых продкаў, пакінутых нам у спадчыну. Яны стварылі сваё асяроддзе, асяроддзе ствара ла іх.

Але зьменім ракурс і паглядзім на сучасны горад.

Гараднічанка - ужо даўно не рака ў маляўнічай швейцарскай даліне, а сьмярдзючы сьцёкавы роў, з абодвух бакоў якога, бессаромна затаптаўшы старыя будынкі, пагардліва тырчаць аблвыканкам і гарвыканкам. А побач, благаславіўшы іх справу, працягвае далонь на ўсход, да вытокаў "памыйніцы", былы правадыр.

Стары горад, абрабаваны і скалечаны, скорчыўся, сьціснуты з усіх бакоў "архітэктурнымі дасягненьнямі" у "жыльлёвым будаўніцтве". А над усім над гэтым чырвоны будынак - монстр "Хімвалакно", падобны на бяздумнае быдла, якое бессаромна спаражняецца ў бацьку-Нёман.

З усходу гадзіць яго, абплёўваючы, як цмок, сваім атрутным дыханьнем "Азот". На поўначы дараблівае іх справу камбінат будаўнічых матэрыялаў. Але і гэтага мала. Дабываючы жвір, зьнішчылі вякамі створаны нёманскі краявід. Зьнішчаюць і далей, і нікому ад гэтага не баліць.

Запаскуджаная і згралчаная рака стала сымболем нашай злачыннай абыякавасьці, у багне якой цяпер ужо топіцца стары горад і яго абшары, пакінутыя нам спадчына.

Мы самі стварылі сваё асяроддзе, цяпер асяроддзе стварае нас.

"Дзеці памыйніцы", - з болем у сэрцы думае чалавек, гледзячы на зьнішчаныя грыбніцы ў Парэччы. Дзікі не змаглі б зрабіць таго, што зрабілі людзі. А гэта ж рэліктавы лес. Тут згадзіліся б пабудаваць свае санаторыі многія краіны Эўропы.

А як за некалькі год сьсеклі коламі аўтамабіляў лясы вакол вёскі Грандзічы з іх стогадовымі наднёманскімі дубровамі. Не дапамагае і тое, што перакопваюць дарогі. Душы трэба перакопваць, каб адчувалі боль і стогны тых, якія ўвасобілі сябе ў гэтых старых будынках і апрацаваных палях, дагледжаных лясах і ўзьбярэжжах.

Дзеці памыйніцы...

Зарастае крапівой, ганьбіцца жыхарамі з новабудоўляў гістарычнае Румлёва. Няма сэнсу пералічваць далей. Кожны гэта бачыць, але не кожны разумее, што краіна - гэта не сукупнасьць палітычных партый, ідэалагічных установаў ці інстытутаў улады. І аблвыканкам з гарвыканкамам над рачулкай-памыйніцай - таксама не краіна, а ўсяго толькі палітычны сымболь зьдзекліваха ўладай.

Краіна, гаворачы словамі ўсё таго ж Дзьмітрыя Сяргеевіча, - гэта адзінства народа, прыроды і культуры. Зьнішчэньне ці то прыроды, ці то культуры вядзе да зьнішчэньня народа,ператвараньня яго ў быдла. Каму патрэбна гэта? Пытаньне рытарычнае...

У наш час заклікаць да чагосьці - марны занятак. Патрэбна вельмі сур'ёзная праграма дзеяньняў.

Ініцыятарамі гэтай праграмы, яе засновальнікамі павінны стаць навукоўцы: спецыялісты-навукоўцы, культуролагі, працуючыя ў рэчышчы паэтыкі ландшафту, гісторыі. А ўлада павінна стаць выканаўцам гэтай праграмы пад жорсткім кантролем грамадзкіх аб'яднаньняў з дапамогай культурных і культурна-асьветніцкіх арганізацый. Гэта рабіць неабходна ўжо зараз, як бы цяжка не было.

І.Р.

## У ВОРАНАВА - ТВОРАЦЬ, А Ў ГОРАДНІ - ДУМАЮЦЬ

У Воранава створана летувіскае нацыянальнае таварыства. Старшынёй таварыства абраны студэнт Беларускага Дзяржаўнага ўніверсітэта Ёнас Мацюлевіч.

На мэце таварыства - культурна-асьветніцкая работа, адкрыцьцё летувіскіх класаў, школак. Ёсьць і першыя вынікі. На базе Пеляскай СШ арганізавана першая школа з летувіскай мовай выкладаньня прадметаў.

Нядаўна тут жа прайшла вечарына ўспамінаў, прысвечаная адраджэньню летувіскай школы на Беларусі.

Вядома, што падчас Другой Сусьветнай вайны на Гарадзеншчыне працавала некалькі школ з летувіскай мовай навучаньня, а ў Горадні існаваў асяродак культуры летувісаў.

З гэтай нагоды ў абласным цэнтры створаны аргкамітэт па аднаўленьню дзейнасьці ў Горадні летувіскага асяродку культуры.

Зьвяртацца на адрас: г.Горадня, вул.Дзяржынскага, 123-120, тэл. 31-56-65.

## РАХУНАК ЗАБЛАКІРАВАЛІ. А ШТО ДАЛЕЙ?

За неразьлікі з пастаўшчыкамі сыравіны заблакіраваны банкаўскі рахунак Смаргонскага завода буйнапанэльнага домабудаўніцтва. У сваю чаргу, з прадпрыемствам-банкрутам не разьлічыліся шматлікія заказчыкі. Таму пакуль што вытворчыя цахі завода, якія амаль паўгады прцавалі толькі на палову праектнай магутнасьці, спынены. Рабочыя адпраўлены ў вымушаны адпачынак. Адміністрацыя занята пошукамі заказчыкаў на сваю прадукцыю як на тэрыторыі Беларусі, так і ў блізкім замежжы.

## ЗНАЙШЛІ ПОПЫТ

Значнае скарачэньне аб'ёмаў будаўніцтва ў вобласьці і рэспубліцы паставіла шэраг праблем перад працоўным калектывам аб'яднаньня "Ваўкавыскцэментнашыфер", на асноўную прадукцыю якога - цэмент - істотна скараціўся попыт. Аднак адміністрацыя прадпрыемства знайшла выйсьце. Сёлета большасьць вырабленага партландцэменту на аб'яднаньні ідзе за мяжу.

Купляюць наш будматэрыял пераважна краіны Цэнтральнай Эўропы.

## РАСПУСЬЦІЦЬ ЛЁГКА, САБРАЦЬ – ЦЯЖКА

Немалыя праблемы паўстаюць перад адміністрацыяй вытворчага аб'яднаньня "Азот" пры адкліканьні рабочых з вымушаных адпачынкаў. Нярэдка на гэта трацціца тыдзень, а то і болей. Таму на аб'яднаньні вырашана, што "адпускнік" павінен стала падтрымліваць сувязь з цэхавым начальствам, інфармуючы апошніх аб месцы свайго знаходжаньня.

## З КАМЕРСАНТАЎ – У ДЫЛЕРЫ

Нялёгкія часы перажываюць гарадзенскія фірмы, што спецыялізаваліся на перапродажы тавараў.

Згодна прынятых законаў і ўказаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзяржаўныя прадпрыемствы значна абмежавалі аб'ёмы паставак сваіх вырабаў камерцыйным структурам.

Таму большасьць камерсантаў у Горадні аддаюць перавагу аказваць дылерскія паслугі для замежных фірмаў.

Невядома, ці прынясе посьпех гарадзенскім фірмачам новы накірунак зарабляць грошы.

Г.Д.

## АДУКАЦЫЙНЫ ЭСПЕРАНТА-ПРАЕКТ У СПРАВЕ

Генеральны дырэктар ЮНЭСКА падтрымаў ідэю канкрэтнага эсперанта-праекта, які можа часткова падтрымаць і асамблея ЮНЭСКА. У лютым 1994 г. Радыкальная Эсперанта-Асацыяцыя прапанавала ЮНЭСКА свой праект "Фундапакс", так званую "праграму ўдзелу", просячы грашовай падтрымкі ў суме 26 тысяч долараў. Хаця ЮНЭСКА яшчэ не адказала на прапанову, праект "Фундапакс", які падтрымала Універсальная Эсперанта-Асацыяцыя, пачаў фінансавацца Радыкальнай Партыяй з Італіі.

Згодна з гэтым праектам, Радыкальная Эсперанта-Асацыяцыя будзе разьвіваць на працягу 1994-95 гадоў у больш чым 10 краінах сьвету сеткі школ ад 4 да 16 класаў або груп дзяцей у школах першай ступені, мовай зносін паміж якімі будзе эсперанта, а таксама паралельна будзе весьціся падрыхтоўка настаўнікаў, якія ўдзельнічаюць у праекце "Фундапакс". Для гэтай мэты Радыкальная Эсперанта-Асацыяцыя надрукавала падручнікі Элізабэты Вілісікс Формаггіо ў колькасьці 5000 паасобнікаў. Адну частку - для дзяцей (каля 150 старонак кожная) і другую частку - для настаўнікаў (каля 80 старонак кожная) для аблягчэньня выкладаньня эсперанта.

Прэзідэнт гэтай Адукацыйнай Камісіі прафесар Фабрыцыо Пенацчэці апісаў магчымасьць розных абменаў, галоўным чынам, абменаў гульнямі паміж групамі дзяцей і падрыхтаваў "пратакол падабенстваў" паміж рознымі класамі і школамі. Аб выніках працы камісіі паведамлялася ў эсперанта-брашурах у чэрвені.

У траўні гэтага года былі разасланыя лісты ў 1100 школ да 80 краінаў сьвету з запрашэньнем прыняць удзел у праекце.

Першы навучальны год па праекту "Фундапакс" будзе цягнуцца з верасьня 1994 года да чэрвеня 1995 года. Настаўнікі, што ўдзельнічаюць у праекце, будуць дасылаць рапарты аб сваёй дзейнасьці ў лютым і чэрвені 1995 года. Нарэшце, у верасьні 1995 года будзе выдадзена "Blanka libro" - "белая кніга" на 150 старонках з вынікамі працы згодна праекту. На 5 красавіка 1994 г. на адрас "Фундапакса" свае прапановы прыслалі 8 класаў з Італіі і 2 - з Украіны.

Арганізатары запрашаюць усіх настаўнікаў прыняць удзел у рэалізацыі гэтага праекту, а таксама ўсіх, хто здольны і мае магчымасьць навучаць дзяцей, пачынаючы з малодшых класаў, хто валодае кампутарам, які падключаны да міжнароднай кампутарнай сеткі. Калі ласка, пішыце свае лісты з прапановамі на адрас арганізатараў праекту. Адрас вы зможаце атрымаць у цэнтры Асацыяцыі Эсперантыстаў РБ, затэлефанаваўшы ў Горадні па тэл. 6-69-80.

Г.КУРГУН.

## БІЗНЕС - ГЭТА НЕ ТОЛЬКІ ГРОШЫ, А І ЦЯЖКАЯ, ЧАСАМ НЕВЫСАКАРОДНАЯ СПРАВА

**Час, калі сістэма купі-прадай прыносіла значны прыбытак малому і сярэдняму бізнесу, мінуў. Пра новыя накірункі дзейнасьці карэспандэнт "Пагоні" размаўляе з камерцыйным дырэктарам АТ "Гарадзея" Сяргеем Рафаловічам.**

- Так, той час, калі кожны жадаючы мог зарабіць грошы, перапрадаўшы кайстру ці дзьве тавару на торжышчы нашага Ўсходняга суседа Расеі, скончыўся. Канкурэнцыя выціскае беларускага камерсанта-чаўнака. Але гэтаму зьдзіўляцца няма патрэбы. Бясконца ж не магла доўжыцца перакачка прамысловых, харчовых тавараў з аднаго месца на другое. Таму на банкруцтва фірмаў, што спецыялізаваліся на перапродажы, трэба глядзець як на рэчы заканамерныя.

**- На вашу думку, што неабходна зрабіць, каб малы і сярэдні бізнес жыў на Беларусі?**

- Каб жыў малы і сярэдні бізнес на Беларусі, каб ён квітнеў, не трэба вынаходзіць веласіпед, бо ёсьць некалькі выпрабаваных часам і практыкай шляхоў. Першы - разьвіваць сваю вытворчую базу. Другі, больш просты, - знайсьці магчымасьці стаць дылерам якой-небудзь замежнай фірмы, што шукае рынкі збыту сваёй прадукцыі на тэрыторыі СНД. Ёсьць яшчэ і трэці шлях - сумяшчаць вышэйсказанае. У Эўропе так пачыналі многія. Працоўны пасрэднікам, добра вывучаюць попыт, каньюнктуру, напрацоўваюць матэрыяльную базу. Потым, калі прыходзіць вопыт, распачынаюць вытворчасьць. Гэта, як кажуць, прапісныя ісьціны. На жаль, яны тычацца толькі цывілізаванага сьвету. Нашыя напорыстыя, нахрапістыя бізнесмены не жадаюць траціць час і сілы на такія "невысакародныя" справы. Ім адразу давай абарот на мільярды. Адсюль і частыя пройгрышы на самым пачатку. Гэта вельмі страшная хвароба нашага грамадзтва. Лекаваць яе цяжка, але можна.

**- Тады якія рэцэпты лекаў мае АТ "Гарадзея"?**

- Агульнавядомыя меры для нашых камерсантаў не падыходзяць. Яны спрацуюць толькі тады, калі ў бізнесе застануцца сапраўдныя людзі справы, а не рвачы, якія жадаюць нажыцца любым спосабам. Рэцэпт АТ "Гарадзея" просты: само жыцьцё адсартуе тых, хто можа ва ўмовах жорсткай рыначнай канкурэнцыі займацца вытворчасьцю, пашырацца, ствараць працоўныя месцы, ад тых, каму грошы засьцяць бачыць сябе як заснавальніка вытворчасьці. Мы гэта ўжо перажылі, перажывуць і тыя, хто хоча чагосьці дасягнуць.

*Касьцёл у горадзе Скідалі, што ў старым парку, да складу дзеючых увайшоў у 1820 годзе.*

*Калі ў верасьні 1939 года адбылося аб'яднаньне Заходняй Беларусі з Усходняй, касьцёл зачынілі. Яшчэ да вайны новыя ўлады разрабавалі гэтае сьвятое месца. Павыцягвалі нават труны са скляпеньняў з рэшткамі нябожчыкаў, забралі з іх каштоўнасьці, а косьці выкінулі.*

*Пасьля вайны 1941-1945 гадоў касьцёл служыў шмат якім савецкім установам. Аднак яго ніхто не рамантаваў і не даглядаў. Ад безгаспадарчасьці будынак стаў аварыйным. Менавіта ў такім становішчы яго і кінулі творцы сьветлай будучыні.*



*Дзякуючы намаганьням ўстаноўчай дваццаткі пад кіраўніцтвам Я.Ч.Прэцкайла касьцёл адрамантаваны і ўжо вось ужо колькі часу ідуць набажэнствы.*

**На фотаздымку: Касьцёл у Скідалі.**

**Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**





# СУМЕЖЖА

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Надзвычайнаму і паўнамоцнаму паслу Рэспублікі Польшча ў Маскве Станіславу Цёсэку Міністэрствам замежных спраў Расеі ўручана нота пратэсту. У ноце МЗС Расеі выказвае свае абурэньні з выпадку сілавых дзеяньняў польскай чыгуначнай паліцыі ў адносінах да грамадзян Расеі на Ўсходнім вакзале Варшавы падчас спробы расейцаў трапіць на міжнародны экспрэс да Бруселю. МЗС Расеі патрабуе афіцыйнага прабачэньня ад польскіх уладаў і дакладнага сьледзтва выпадку.

* * *

У Катавіцах адбылося пахаваньне заснавальніка і старшыні грамадзкага клубу Паштовых галубоў Юзэфа Палічкі.

* * *

На дзяржаўнай радыёстудыі Рэспублікі Польшча распачалася перадача праграм да фэсту, прысьвечанага 70-ці гадоваму юбілею польскага радыё. Мерапрыемствы пачаліся аднáчасова на ўсіх чатырох агульнапольскіх праграмах радыё з успамінаў ветэранаў, трансляцыі архіўных стужак, канцэртаў з твораў кампазітараў, што тварылі ў 20-30-ыя гады нашага стагоддзя.

* * *

Дзень успамінаў продкаў у Польшчы другога лістапада пройдзе пры актыўным удзеле касьцёла. З гэтай нагоды "Касьцёл агульнапольскі" падрыхтаваў шэраг мерапрыемстваў якія пройдуць малебнамі ў касьцёлах, на могілках, а таксама ля магілы невядомага жаўнера. Сьвятая імша, канцэрты духоўнай музыкі пройдуць у гэты дзень на брацкіх магілах французскіх, канадзкіх, ангельскіх і расейскіх жаўнераў загінуўшых падчас вядзеньня баявых дзеяньняў на тэрыторыі Польшчы. У дзень успамінаў продкаў Касьцёл польскі заклікаў быць духоўна паяднанымі ўсіх палякаў з ахвярамі сталінскага генацыду ў Катыні і іншых месцах, бо як лічыць касьцёл, жаўнеры не паміраюць, а аддаюць сваё жыцьцё за праўду і іх душы застаюцца паміж людзьмі.

* * *

У памяшканьні БГКТ у Беластоку адбылася прэс-канферэнцыя, наладжаная аргкамітэтам сьвяткаваньняў 50-годдзя Бельскага ліцэя з Беларускай мовай навучаньня.

На думку прафесара Яна Чыквіна, толькі кожны чацьвёрты выпускнік лічыць сябе беларусам, больш за палову выпускнікоў бельскага ліцэю лічаць сябе палякамі.

Крыху іншая сітуацыя ў беларускім ліцэі Гайнаўкі, дзе каля 35 працэнтаў навучэнцаў лічаць сябе беларусамі.

* * *

Сёлета Ваяводзкая ўправа працы ў Беластоку выдала 37 дазволаў на працаўладкаваньне замежным спецыялістам. Большую палову - 22 дазволы - атрымалі грамадзяне Беларусі.

Найбольшую колькасьць дазволаў для працы на зямлі беластоцкай атрымалі прадстаўнікі мастацкіх прафесій - 15, сяброў упраўленьня С.П - 8, экспертаў і дарадцаў - 6.

* * *

У Беластоку ствараецца новы прытулак для бяздомных. Прытулак будзе працаваць на базе інтэрнату аднаго з Беластоцкіх прадпрыемстваў, дзе Гарадзкі цэнтр грамадзкай дапамогі зробіць за свой кошт капітальны рамонт.

* * *

Сяргей Федаровіч - жаўнер беларускіх памежных войскаў - здэзертаваў разам са зброяй на тэрыторыю Польшчы. У выніку трохдзённых пошукаў "парушальніка" польскім паліцыянтам удалося перахапіць уцекача непадалёк Аўгустова.

Пасьля допыту і экспертызы беларускі памежнік быў вернуты на радзіму.

## НАВІНЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Нядаўна ў гандлёвых кропках Беластоку побач з вокладкамі да летувіскіх, расейскіх ды латвійскіх пашпартоў пачалі прадавацца вокладкі і да нашых, беларускіх. Вокладка выробленая з натуральнай скуры і аздобленая металічнымі вугалкамі. Зьверху ў цэнтры на ёй зьмешчаны дзяржаўны герб Беларусі, а ў нізе лацінкай выведзена: "BELARUS".

Кошт адной вокладкі роўны 15 тысячам польскіх злотых.

**(Ул.інф.)**

**БЕЛАВЕЖА**

З нагоды стагоддзя ўвядзеньня ў дзеяньне царскага палаца ў Белавежы пяцідзесяцігоддзе яго зьнішчэньня адзначана выставай здымкаў пад назвай "Палац царскі ў Белавежы" ў Музеі прыроды Белавежскага Нацыянальнага парку. Большасьць здымкаў паходзіць з прыватных галерэяў Пятра Байко, Вольгі Лукашэвіч, Чэслава Окалава, а таксама з Белавежскага Нацыянальнага парку і Дзяржаўнага Камітэту аховы здабыткаў у Беластоку.

**СЕМЯНУЎКА**

Фірма "FARMBEST" з Бельска-Падляскага наладзіла вытворчасьць прадукцыі штучных угнаеньняў. Сыравіна і напаўняльнікі дзеля вытворчасьці будуць пастаўляцца з Расеі. Ва ўрачыстым адкрыцьці вытворчасьці удзельнічалі прадстаўнікі з Масквы,С.Пецярбурга і Новамаскоўска. Штодня новае прадпрыемства будзе вырабляць 250-300 тон угнаеньняў, якія будуць таньней за вырабляемыя сёньня ў Польшчы на 700-800 тысяч злотых за тону.

* * *

На працягу 8 месяцаў гэтага года супрацоўнікі Падляскага аддзелу Стражы памежнай затрымалі 1.122 асобы, якія спрабавалі нелегальна перайсьці дзяржаўную мяжу, учынілі крымінальныя ці эканамічныя злачынствы. У гэты ж час Стража памежная затрымала 281 крадзеную легкавушку і перахапіла кантрабанды на суму 5 мільярдаў 330 мільёнаў злотых.

**БЕЛЬСК-ПАДЛЯСКІ**

На Надзвычайнай сесіі мясцовага савету быў абраны новы бургамістр горада. Ім стаў Анджэй Стэпанюк з Беларускага Выбарчага Камітэту. Бургамістру 31 год, ён выпускнік аддзяленьня Беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэту, апошні час быў выкладчыкам беларускай мовы ў ліцэі імя Бр.Тарашкевіча ў Бельску-Падляскім.

**СУПРАСЬЛЬ**

Тут адбыўся трохдзённы міжнародны семінар, прысьвечаны злачыннасьці чужаземцаў. У ім прымалі ўдзел пракуроры, суддзі, прадстаўнікі паліцыі, турэмных службаў і стражы памежнай з усяго краю. У адным з выступленьняў прыведзены прыклад з беластоцкага сьледчага ізалятара, дзе заўважана, што калі ў камеры знаходзіцца больш за 30 працэнтаў грамадзян былога СССР, яны пачынаюць дамініраваць над астатнімі. Гэта вядзе да канфліктаў паміж палякамі і іншаземцамі. Удзельнікі семінару прыйшлі да высновы, што найлепей размяшчаць іншаземцаў у месцах пакараньня, якія знаходзяцца паблізу ад мяжы з краінамі, грамадзянамі якіх яны зьяўляюцца.

## ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Сейм Летувы ратыфікаваў летувіска-польскі дагавор аб добрасуседзкіх і сяброўскіх адносінах, падпісаны ў красавіку бягучага года прэзыдэнтамі краін. Ён заключаны тэрмінам на 15 гадоў і можа быць працягнуты яшчэ на пяць год.

Дагавор прызнае існуючую зараз дзяржаўную мяжу паміж Летувой і Польшчай. Краіны пацьвердзілі, што ня маюць тэрытарыяльных прэтэнзій адна да другой.

* * *

Урад Летувы адобрыў праект унясеньня зьмяненьняў і дадаткаў у палажэньне аб пашпарце грамадзяніна Летувіскай Рэспублікі і прадставіла яго ў Сейм.

Галоўная навізна - укладыш у пашпарт, які прызначаецца да пастаўкі віз (калі ў пашпарце выкарыстаны ўсе старонкі).

* * *

За апошнія два-тры гады ў Летуве сфарміраваўся "чорны рынак" сыравіны і матэрыялаў. Па дадзеных нацыянальнай таварнай біржы, на ім рэалізуецца каля 60-70 працэнтаў металаў і нафтапрадуктаў, драўніны, будматэрыялаў, паперы, сыравіны для хімічнай і машынабудаўнічай, лёгкай і харчовай прамысловасьці. У выніку ў бюджэт Летувы не паступае штогод каля 50 працэнтаў патэнцыяльных даходаў.

* * *

З мэтай зьніжэньня магчымасьці фальсіфікацыі ўсе вырабляемыя ў Летуве алкагольныя напоі з першага сьнежня бягучага года будуць дадаткова памячацца. Без дазвола ўрада забараняецца выраб іх па ліцэнзіях іншых краін.

Адпаведным рашэньнем урада Летувы прадугледжваецца таксама з 1-га студзеня ўвоз у краіну алкагольных і тытунёвых вырабаў, нафтапрадуктаў без сертыфікатаў краін, дзе яны выраблены.

* * *

Міністр фінансаў Летувы Э.Вілкясіс выказаўся за легалізацыю азартных гульняў у рэспубліцы. Ён адзначыў, што забарона на іх не спыніла дзейнасьць у гэтай сферы, а толькі загнала ў падпольле. Там яна квітнее, крадуцца буйныя грошы, а дзяржава пазбаўлена магчымасьці кантраляваць яе і не атрымлівае ніякіх даходаў.

Немагчымасьць адкрыць у гатэлях казіно адштурхоўвае ад Летувы патэнцыяльных інвестараў у гатэльны бізнес. На думку міністра, з цягам часу жыцьцё паставіць гэтае пытаньне ў парадак дня і, магчыма, Сейм вернецца да абмеркаваньня гэтай праблемы.

* * *

Заходнія бізнесмены, якія жадаюць укласьці грошы ў краіны Сярэдняй Эўропы і дзяржавы Балтыі аддаюць перавагу Летуве. Такія дадзеныя апытаньня, праведзенага ў ліпені-кастрычніку незалежнымі заходнімі экспертамі, сярод 183 замежных кампаній рознага профілю і 20 міжнародных фінансавых арганізацый.

Найбольш прывабнымі для замежных інвестараў зьяўляюцца фармацэўтычная прамысловасьць і некаторыя вобласьці машынабудаваньня, найменш - сельская гаспадарка і электроніка.

* * *

Жыхары Летувы, якія карыстаюцца прыгараднымі і мясцовымі цягнікамі, звыкліся з тым, што за праезд у іх можна заплаціць, прабіўшы на станцыі загадзя набытыя абанементныя талоны. З 1-га лістапада продаж іх прыпыняецца, а з трынаццатага - пасажырам цягнікоў забараняецца карыстаньне наперад набытымі талонамі.

* * *

Зараз у Летуве крыху больш за палову дзяцей нараджаюцца здаровымі. 8,7 працэнта - неданошаныя, каля 3-х працэнтаў - з прыкметамі выраджэньня. Па дадзеным гінеколагаў, штогод на сьвет зьяўляюцца 7-8 тысяч дзяцей-інвалідаў. У 25 працэнтаў - парушэньні псіхікі, 36 працэнтаў - з захворваньнямі нервовай сістэмы і ворганаў дотыку, каля 7 працэнтаў - з парушэньнямі зроку, 500-600 - ня чуюць ад нараджэньня, у 3-х тысяч - іншыя парушэньні слыху, каля 350 - дыябетыкі.

**МГ-ЛР**

* * *

*Летува - першая з дзяржаў з ліку СССР, якая стварыла рынак каштоўных папер. Падчас гадавога юбілею гэтай падзеі пазаштатны карэспандэнт "Пагоні" У.Янковіч меў гутарку з генэральным дырэктарам Нацыянальнай біржы каштоўных папер Р.Бусілай.*

Нацыянальная біржа каштоўных папер Летувы створана па ўзору французскай НБКП. Менавіта французская мадэль рынка каштоўных папер выбрана большасьцю эўрапейскіх дзяржаў. Таму, ідучы шляхам французаў, мы стварылі адзіную сістэму разьлікаў, Клірынгавы банк і Цэнтральны дэпазітарый. Агульная сума каштоўных папер на сучасны момант налічвае 800 мільёнаў літаў.

На першых таргах абарот біржы склаў тры тысячы літаў. Сёлета, на 51-й гандлёвай сесіі, абарот сягнуў звыш двух мільёнаў літаў. Рост ёсьць, і ёсьць перспектывы. Дырэкцыя станоўча адносіцца да ўрадавай пастановы выпускаць аблігацыі кароткатэрміновага займу, разглядае яе як яшчэ адну магчымасьць інвеставаньня сродкаў з найменшай рызыкай для сябе.

## У ЦІШЫ БЕЛАВЕЖЫ

**Юры ВАЎКАВЫЦКІ - былы рэдактар беластоцкай "Нівы". Больш за 32 гады ён рупліва працаваў дзеля беларускай справы ў Польшчы. Зараз спадар Ваўкавыцкі на рэньце. Як ідзе яго жыцьцё, як ён адчувае сябе без свайго дзіцяці - "Нівы"?**

**Сёньня газета "Пагоня" дае ў скарачэньнях дарожныя замалёўкі журналісткі Ады ЧАЧУГІ падчас яе наведваньня да ў белавежскай хатцы сям'і Ваўкавыцкіх.**

Мой легкавік спыніўся на вуліцы Мастаўой-29 у Белавежы. Мясцовыя людзі гэтае месца называюць Барком. Менавіта тут і знаходзіцца патрэбная мне хатка. Мудрагелістыя замкі на брамцы доўга не паддаваліся. Але насустрач ужо сьпяшаў з дапамогай сам гаспадар. Кароткае прывітаньне і спадар Юры найперш павёў паказаць сваю гаспадарку.

Хатку на вёсцы для жыцьця на рэньце пачала шукаць жонка Вера заўчасна. Знойдзеныя варыянты абмяркоўваліся ледзьве ня ўсёй рэдакцыяй. Найлепшай кандыдаткай, на думку дарадчыкаў, была невялікая хатка ў роднай Ваўкавыцкаму Белавежы.

Быў час, калі Ю.Ваўкавыцкі заракаўся, што яго там нагі ня будзе, але зараз хатка стала яго найлепшым сябрам.

Жонка добра папрацавала, каб яму было ўсё да густу. Чысьценькі панадворак, а калісьці ён палохаў пустэльняй. У садзе самыя розныя пасадкі. Яны - гонар гаспадара. Тут ён можа быць гадзіны, дні, тыдні. Асабліва шмат гаспадар завіхаецца каля маладых дрэўцаў. Сёлета пасадзіў пігву, аронію. Дрэвы, як кажуць, экзатычных гатункаў. Догляд за імі вымагае сілаў. Асаблівай групай у садзе растуць яблыні ды грушы. Гаспадар частуе пладамі ўсіх. Пры кожным пачастунку любіць дадаць, што год для садавіны выдаўся надзвычайны і яе проста некуды дзець. Любіць Ваўкавыцкі паказаць чорныя канадзкія ягады, якія растуць кустом. Пра ружы ўвогуле распавядае цэлую паэму. Ганарыцца таксама і абляпіхай, якую на ровары калісьці прывёз з Чарлёнцаў.

Тры гады аддалі яны з жонкай, каб давесьці сад, дом, двор да ладу.

Хатка Ваўкавыцкіх невялікая, але відаць, што ў яе ўложана душа і сэрца. У куце новая печка, абабілі дошкамі сьцены, перасыпалі ўваходныя дзьверы. Камору прыстасавалі пад пакой для ўнука Эрніка.

"Сумаваць не прыходзіцца, - кажа гаспадар, - то ўнук на пару дзён заляціць, то які-небудзь сябрук завітае. Вось днямі гасьцяваў тут Барыс Руско. Пару дзён былі з ім ва ўрочышчы Шчэкатова, аглядалі курганы, якіх там каля сямідзесяці. Нават у Нацыянальным парку падчас вандроўкі налічылі ў розных кутках такіх жа курганоў таксама каля паўсотні. Лічу для сябе гэта вельмі важнай справай, бо пішу гістарычныя матэрыялы аб Белавежы. Як кажуць, пачаў з таго, што раскапаў свой радавод, з якога даведаўся, што ўжо ў XVI стагоддзі памешчыкі Ваўкавыцкія перапісваліся з Баторыем. Займаюся гісторыяй Кітая. Шукаю доказы для разгаданьня загадкі кургапоў - месцаў старых культаў. Мяне цікавіць, чаму ў старажытнасьці людзі выбіралі месцы для пахаваньня, дзе найбольшая касмічная актыўнасьць. Ведаю, што ў месцах, дзе праходзіць энэргетычны слуп, людзі адчуваюць сябе добра, праходзіць боль. Напрыклад, пры стогадовых дубах, або ў лесе, дзе была паганская сьвятыня - капішча. Працы шмат, а часу, адведзенага Богам, засталося ненадоўга. Трэба сьпяшаць здзейсьніць задуму".

Вось такі ён, Юры Ваўкавыцкі, які ня можа абыйсьціся без працы, без досьледаў роднага краю. Робіць гэта вядома ж для нашчадкаў, каб ведалі, што тут, на Беласточчыне, іх карані, іх вытокі.




**ВІЦЕБСК З МІНУЎШЧЫНЫ** (пераздымак з паштоўкі).

# ЛЯСЫ, БУНКЕРЫ, ПАРТЫЗАНЫ

**Гэтыя ўспаміны напісаў нямецкі афіцэр Д.Гасмэлер, які ў 1946 г., уцёкшы з савецкага лягеру для ваеннапалонных, навязаў кантакты з беларускімі, латыскімі, украінскімі й польскімі антыбальшавіцкімі партызанамі. Ягоная шматмесячная прыналежнасьць да паўстанцкіх аддзелаў, выкананьне розных спецыяльных заданьняў, дае магчымасьць нам даведацца пра "арганізацыю й дзейнасьць Беларускай "Вызвольнай Арміі ("Чорнага Ката"), якой сёлета спаўняецца 50 год са дня заснаваньня. Упершыню ўспаміны зьявіліся ў нямецкай газеце "Марбургэр Прэссэ" ў лістападзе-сьнежні 1949 г. Мы ж падаем урывак з успамінаў у перакладзе С.Гоха, зьмешчаны ў Беларускай Ветэранскай газеце "Зважай" (Таронта, чэрвень (N2) і верасень (N3) 1978 г.).**

**Сяргей ДУДАЛІЧ.**

Неба зьвісла цяжкімі бруднымі шматамі пад лягерам. Безнадзейнае сібірскае неба.

Я сядзеў у цёмным кутку бараку й скручваў у газэтнай паперы рэшткі тытуню. Увайшоў пісар з лягернай управы. Стоячы ў дзьвярох, разглядаўся, шукаючы некага, а ўбачыўшы мяне, падышоў.

- Ты мусіш ісьці да каманданта.

Я зацягнуўся сьмярдзючым дымам самакруткі, з якое цешыўся ўжо дзьве гадзіны.

- А што такое? - спытаў я злосна.

Ён адразу прыняў службовы тон і пачуваў сябе вельмі важкай асобай.

- Ідзьбі,- буркнуў я, асьцярожна згасіў папяросу да пайшоў за ім.

**РАБЛЮСЯ ПЕРАКЛАДЧЫКАМ**

Нейкі час пазьней сядзеў я зноў каля Рольфа Штогсака й намагаўся прыкурыць, папярэдне падзяліўшыся з ім тытунём. Гэта быў адзіны сябра з цэлага лягеру, з якім я трымаўся.

- Што было? - пытаўся Рольф.

- Маю стаць перакладчыкам, - быў мой адказ. - Ад заўтрага. Па абедзе пераношуся.

- Ну ты дабіўся, - сказаў Рольф. - Перакладчыкам быць - гэта добра. Лепшая ежа, лепшы барак. Толькі са звальненьнем дрэнна, бо ты цяпер спэцыяліст. Мы, іншыя хутчэй пападзем у чаргу.

Тады мы верылі ў абяцанкі.

Пасьля абеду я перабраўся. Вечарам камандант хацеў ведаць, ці магу я кіраваць аўтам. Я кіўнуў галавой. Усё ж некалі быў лётнікам. Камандант задаволіўся маім адказам. Ён забраў мяне нават да штабу НКУС, куды яго перавялі. Месяцамі вазіў я яго ў трафейным Мэрсэдэсе засьнежанымі, абледзянелымі, гразкімі ці пыльнымі дарогамі. Восеньню, зімой і вясной я меў магчымасьць запазнацца з усімі лягерамі вакол Байкальскага мора й заўсёды і ўсюды людзі пыталіся: - Калі мы адгэтуль выйдзем.

**МОЙ ПРЫЯЦЕЛЬ - АД'ЮТАНТ**

Цэлымі месяцамі я разважаў над праблемамі ўцёкаў. Веданьне моваў было адным з галоўных фактараў. Апроч таго апошнімі тыднямі я пазнаёміўся й бліжэй зыйшоўся з ад'ютантам шэфа, які браў удзел у здабыцьці Бэрліну, доўгі час стацыянаваў у Карльсгорст і таму, што "зараўзіўся" заходнімі ідэямі дык яго перавялі ў штаб НКУС у Сібіры. Гэта была лагодная кара, бо за такія правіны, як адхіленьне ад партыйнай лініі проста за дротам лівідавалі.

Гэты афіцэр быў запраўды задаволены, што знайшоў кагосьці, з кім мог бязкарна гаварыць пра Нямеччыну. Яго ўспаміны найбольш канцэнтраваліся на асобе дзяўчыны, з якой ён запазнаўся. Аднойчы нават паказаў мне яе здымку.

- Я разумею, што кожны хоча як найхутчэй папасьці дахаты, - сказаў ён, не пазіраючы на мяне. Я ведаў, што знайшоў адназумца.

**ЗАПРАЎДНЫЯ ПАПЕРЫ...**

Цэлага паўгоду я рыхтаваўся да ўцёкаў. За цыгарэты выменяў старое савецкае афіцэрскае абмундзіраваньне. Пару старых ботаў падараваў мне камандант, ня ведаючы якую яны маюць для мяне вартасьць. На падарожжа дамоў ад Байкальскага возера гэта быў толькі малы пачатак. Мне прыйшла думка, што я мушу прасіць ад'ютанта, каб выстараўся для мяне савецкія дакументы. Гэта была вельмі рызыкоўная гульня як для яго, так і для мяне. Я прадчуваў, што ён мяне не здрадзіць. Але калі пападуся й пачнуць распытваць пра дакументы, гэта пагражала яму карай сьмерці.

Калі мы ехалі палявымі дарогамі я ўсё ж такі сказаў ад'ютанту, нібы гаворачы да сябе: - Мне, каб выйсьці адгэтуль, трэба мець паперы. Добрыя паперы, на якіх шмат штэмпеляў.

Ён зразумеў мяне адразу.

- Як жа ты сабе гэта прадстаўляеш? Шмат якія перад табой спрабавалі, але заўсёды прападалі ў гэтых прасторах.

- Таму я й патрабую добрыя паперы, - адказаў я.

Ён усунуў мне ў зубы цыгарэту й сказаў: - Пра гэта пагаворым пазьней.

Тры тыдні пазьней я ўжо меў свае дакументы. Яны былі выстаўлены на лейтэнанта Паўла Сяргеевіча Дзімітрава. На іх была мая выцьвілая здымка, пад якой я вывеў сваё прозьвішча. Апрача таго атрымаў пасьведку дэмабілізацыі й вайсковае права кіраваньня машынай; далей - пасьведкі на тры вайсковыя ўзнагароды "за храбрасьць". Кожны малы патруль гэтым задаволіцца. З войска мяне звольнілі, а цывільная прафэсія - сьлёсар. Знаходжуся ў дарозе на Менск, а адтуль пайду далей. Нарыхтаваў я й харчоў, пераважна сухароў, якія лёгка было несьці.

**..І НОВЫ МЭРСЭДЭС**

Трэба ўжо было думаць пра падарожжа. Пасьля грунтоўнага рамонту, Мэрсэдэс трэба было аб'езьдзіць. Гэта была прычына. Камандант атрымаў дазвол на права язды ў акружнасьці 300 км па службовых справах. Я шмат разоў на ягоным "галубчыку" прыяжджаў у поўнач і ніхто мяне не затрымаў. Нягледзячы на гэта, пасьведка была для мяне вельмі важнай і я цешыўся, калі яе дастаў.

Пасьля абеду я далажыў у штабе, што еду на спробную паездку, спакаваўся да ўзяў яшчэ з сабой два каністры. Маленькі пакунак паклаў у багажнік. Пачка з дакументамі знаходзілася на грудзёх, каля сэрца й гэта супакойвала мяне. Пры браме Іван падняў уверх "шлягбаум". - Харашо, - адказаў я й націснуў на газ. Роўнамернае бурчэньне матору супакоіла мяне. На раздарожжы я спыніў машыну, закурыў цыгарку, выняў памятную мапу й завярнуў на пяшчаную палявую дарогу, кіруючыся на поўнач.

**ШКАДА ПРЫГОЖАГА АЎТА**

Ужо сьцямнелася, калі я выліў другі каністар гаручага ў бак, пакідаючы некалькі літраў у запасе. Ад таго часу ўважна сьлядзіў за пакзьнікам на бэнзінамэтры, а калі дайшло да нуля, спыніў аўта на абочыне дарогі. З багажніка выняў савецкі афіцэрскі мундзір і апрануў яго. З майго старога абмундзіраваньня выняў усё, што там было, нават вывярнуў кішэні, каб чаго не засталося. Добра, што мундзір меў шмат кішэняў, у якіх я мог разьмясьціць свае рэчы. Месца знайшлося на паперы, ежу, пару савецкіх рубляў і іншае. На гэтым скончылася. Рэшткі бэнзіну выліў на шофэрава месца і кінуў запалку. Вакно было адкручана, каб даходзіла паветра і ў міг аўта стаяла ў полымі, а паскудны едкі дым грыз горла. Папраўдзе, шкада было прыгожае машыны, але нічога ня зробіш.

**РОЗНЫМ СПОСАБАМ ПРАЗ СІБІР**

Два дні ішоў я рознымі дарогамі і амаль ніводнага чалавека на бачыў. Ноччу спаў пад адкрытым небам. На трэці дзень трапіў у невялікую вёску, дзе напаткаў вайсковую машыну. Здарылася магчымасьць хутчэй падацца далей. Абодва жаўнеры ахвотна пасунуліся, каб уступіць мне месца. Напэўна, вызваліся без дазволу, а таварыш афіцэр мог пацікавіцца куды яны едуць. Калі я з іх пачаставаў цыгарэтамі, адразу пасябравалі са мной. Ня кожны дзень бывала такое шчасьце. Я пасьля гэтага больш асьмеліўся й стараўся пры кожнай нагодзе чым больш вёрст пакінуць за сабой. І гэта забірала бесканечныя тыдні, аж пакуль не дайшоў да адной мясцовасьці пад Уралам і тут ужо мне сьвет дошкамі забілі. Тут межавала Азія з Эўропай і без спэцыяльнага прапуску далей ісьці было нельга. Пра гэта казалі мне ўжо татары, у якіх я начаваў. Хаця меў я добрыя паперы, але войстрых кантроляў, допытаў і вітаціяў старэўся ўнікаць.

**ПРАЦУЮ НА ЧЫГУНЦЫ**

Усьміхнулася мне шчасьце. У адной, перапоўненай табачным дымам, карчме сустрэў я аднаго савецкага чыгуначніка. Ён прысеў да майго стала й нейкі час пільна мне прыглядаўся. Потым раптам спытаў:

- Станцыянуеш тут?

- Не,- адказаў я, - дэмабілізаваны.

- Але ты ня тутэйшы, - сьцвердзіў ён.

Мне гэты допыт ня вельмі спадабаўся. Што ён хоча, гэты чалавек? Я пачаставаў яго цыгарэтай.

- Не, кажу, - я родам з Менску.

Ён прыхільна ўсьміхнуўся, кажучы: - Я пазнаў гэта па тваёй вымове. Я таксама быў ужо раз у Менску.

Я падумаў, што справа выглядае вельмі паскудна, але, на маё шчасьце, ён перарваў свае роспыты й здаваўся, што быў задаволены. Каб больш не закранаць гэтае тэмы, я сказаў яму, што мне бракуе грошы, каб далей ехаць чыгункай і што я з прафэсіі сьлёсар. Дык ён аж зазьзяў, кажучы, што ў іхняй арцелі могуць мяне на працу прыняць.

- Я мушу перагаварыць з інспэктарам, а ты заўтра прыходзі да "кладовай".

Я скінуў вайсковы мундзір і пераапрануўся ў адзежу чыгуначніка. Мой пратэктар пастараўся для мяне скромны пакойчык. Сем тыдняў рыхтаваўся я да другога этапу маіх уцёкаў.

**ЗМАЗЧЫКАМ ПРАЗ УРАЛ**

Узяўшы на ўвагу ўсе магчымасьці й ні з кім не разьвітаўшыся, аднаго вечара я ўскочыў у апошні вагон даўгога таварнага цягніка, што кіраваўся на захад. Надзеўшы сьляцоўку, я сядзеў з вялікай змазьніцай у тормазнай будцы. Пакуль было цёмна, я ня меў ніякіх цяжкасьцяў, а калі цягнік затрымліваўся ў дзень то я выходзіў із змазьніцай і рабіў выгляд, што шмарую вагоны. Калі якісь чыгуначнік праходзіў міма, я як мага хутчэй уліваў аліву ў буксы.

**СТОЙ!**

Бяз ніякіх перашкодаў пераехаў я праз Урал аж да Самары. Тут прамяняў я сваю чыгуначную сьляцоўку на хлеб і масла й далей ужо ў савецкай уніформе праз Пензу, Маскву, Смаленск і Вільню дабраўся да Ўсходніх Прусаў. Гэта былі вельмі цяжкія тыдні. Падтрымоўвала толькі надзея, што з кожным днём даходжу бліжэй да радзімы. Калі дабраўся я да Аленштайну дык думаў, што небясьпека ўжо мінула. Якраз тут напаткаў я перашкоды, паход на захад аказаўся вельмі цяжкім. На былой польска-нямецкай мяжы канцэнтравалася вялікая маса войска. Пабачыўшы гэта, я наважыўся йсьці праз мазурныя лясы, мінаючы вёскі й вазёры із знаёмымі назовамі аж да тэй незабыўнай рапіцы, калі ў адным ляску раптам спаткаў шэсьць узброеных людзей. Апранутыя яны былі ў розныя мундзіры, што адзін да аднаго не пасавалі. Іхнія аўтаматы трымалі мяне на прыцэле, так што пра супраціў і мовы не магло быць.

Чорнавалосы каманьдзір ступіў крок у мой бок і сказаў:

- Стой!

Пачуўшы гэта зьненавіджанае слова, мяне быццам хто дубіняй па галаве зьехаў. Аўтаматычна падняў я рукі ўверх, разважаючы, што месячныя вандраваньні й уцёкі былі дарэмнымі. Двух мужчын узяло мяне між сябе й перашукалі мае кішэні.

- Адвядзіце! - згадаў каманьдзір.

Чорнай хусткай завязалі мне вочы, зазаду моцным шнуркам зьвязалі рукі. Калі з маіх вачэй зьнялі хустку то я стаяў у малой зямлянцы пры зьбітым з досак стале, на якім ляжалі мае паперы.

**ДОПЫТ У ЗЯМЛЯНЦЫ**

Чорнавалосы каманьдзір прагледзіў мае паперы, а потым зьвярнуўся да мяне:

- Ты завешся Павал Сяргеевіч Дзімітраў і зьяўляешся зволненым лейтэнантам Чырвонай Арміі? Нарадзіўся ты ў Вільні й цяпер у дарозе на Менск?

- Так, - адказаў я хутка.

- Што ж ты скажаш, калі я ў цябе спытаю такое: чаму ты, па дарозе ў Менск, лазіш па мазурскіх балотах? Потым другое пытаньне: як доўга ты жыў у Вільні?

- Чатырнаццаць гадоў, - ілгаў я.

Чорнавалосы задумаўся на хвіліну, а пасьля загаварыў да мяне зусім незразумелай моваў. Я паціснуў плячыма. Тады шэф ускочыў і пачаў махаць пісталетам перад маім тварам.

- Ты хлусіш! - крычаў ён на мяне. - Ты савецкі правакатар! Калі ты чатырнаццаць гадоў жыў у Вільні, то хоць крыху мог бы ведаць летувіскую мову, прынамся зразумець што я пытаюся.

Я здаўся. Па-расейску я сказаў яму, што я немец і ўцёк з палону. Шэф паклікаў вартавога й даў яму кароткі загад. Той зьнік і ў хуткім часе вярнуўся ў суправоддзе аднаго чалавека, у якім я адразу паспазнаў нямецкага афіцэра. Я дагадаўся, што цяпер зноў пачнецца допыт, але я ўжо не баяўся. Я мусіў зноў расказваць пра сваю адысэю, гаварыць да канца. У міжчасе разьвязалі мне рукі й завялі, пад аховаю, у суседнюю зямлянку, дзе я атрымаў цёплую страву, якой ня еў цэлыя тыдні.

**НЯМЕЦКІ МАЁР МЯНЕ ПАЗНАЎ**

Наступнае раніцы мяне зноў выклікалі на допыты. Гэтым разам дапытваў мяне нямецкі маёр. Ён паказаўся мне знаёмым і запраўды выявілася, што абодва мы былі разам у лягеры ваеннапалонных. Ён уцёк адтуль, а мяне ў Сібір выслалі. Маёр прысутнічаў, калі мяне чорнавалосы шэф другі раз выклікаў.

- Ты ведаеш у чыіх руках ты знаходзішся?

Я кіўнуў галавою.

- Добра, дык тады не патрабую шмат вьясьняць. Я раблю табе прапанову: на нашым баку вавое шмат немцаў і зможам ужыць цябе перакладчыкам. Калі хочаш, можаш тут застацца. За гэта мы табе ў адпаведны момант дапаможам перайсьці за мяжу.

**"ЧОРНЫ КОТ"**

Гэта была нагода. Передумаўшы ўсё, я прыйшоў да высновы, што іншага выхаду няма. Мы паціснулі рукі й я стаўся сябрам арганізацыі. Гэта была самая простая хворма прыёму, таму, што рытуалы розных групаў былі іншыя й розьніліся міжсобку. Прыкладна, Украінская Паўстанцкая Армія (УПА) мела спэцыяльную роту прысягі, да якое я быў прыдзелены зьвязным. Прысяга там адбывалася вельмі ўрачыста, у прысутнасьці сьвятара.

Паволі я прыжыўся, але доўгі час мусіў правесьці ў санітарным бункеры. Усё, што было асягнута вытрыманасьцю й сілай волі, цяпер прарвалася. Я пачуўся стомленым і хворым. Паволі пачынаў здаравець і пры гэтым меў магчымасьць прыглядзіцца да майго акружэньня.

Людзі, што мяне ўзялі ў палон, былі сябрамі групы "Чорны Кот". Належалі да беларускага партызанскага руху. Яны былі высланы із спэцыяльным заданьнем, каб скантраляваць дарогі ў мазурскіх лясох таму, што гэтым шляхам яны атрымоўвалі зброю з Польшчы і пры гэтым кантралявалі цягнікі. Род тавараў і сіла аховы падавалася праз радыё. Я сам быў сьведкай, калі ў адным савецкім цягніку везьлі хатнюю жывёлу з Мэклебургу ў Крым. Фарпостамі "Чорнага Ката" былі пераважна працаўнікі калгасаў, што пакліваліся да больших акцыяў. Толькі малыя групы, да адной з якіх належыў і я, былі ў лясох. Фінансава й харчова утрымоўвала іх галоўная кватэра (г.зн. галоўны штаб - С.Д.). Калі прыпадкова на час не было даставаў, тады які-небудзь працоўны ў калгасе партызан забываўся на ноч зачыніць хлеў.

Пасьля трох тыдняў шэф выслаў мяне ў суправодзе двух падафіцэраў да галоўнае кватэры, якая часова знаходзілася ў Вільні.

Раніцай старое аўта ківалася па палявых дарогах у кірунку на ўсход. Некалькі дзён пазьней я быў у Вільні й апынуўся перад галоўным кіраўніком "Чорнага Ката", лягэндарным Вітушкам.

Кватэра знаходзілася ў лесе. Бункер абкружаны дротам з вялікім электрычным напружаньнем.

**(Працяг будзе).**

## ПОНЕДЕЛЬНИК, 07,11

**Беларускае тэлебачанне**

16.40 "Бімбат" 17.00 Навіны (з сурдаперакладам) 17.10 Да 50-годдзя Перамогі. "Незабыўнае". (Гр.) 17.35 Праспект. Інфармацыйна-аналітычная праграма 18.10 Дзённік Прынёмання (Гр.) 18.25 Над Нёманам. Праграма на польскай мове (Гр.) 19.05 Размова з нагоды (Гр.) 19.40 Што на свеце пачуваецца? 20.35 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 Студыя "Тэлесябрына". Імгненне шчырасці 21.45 Вертыкаль. Пошта прэзідэнта 22.20 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя 22.25 Спартыўны тэлекур'ер 22.50 НІКа 23.05 Дайджэст 23.15 Пад купалам сусвету 23.25 "Паласа Сімарона". Маст. фільм (ЗША), ф.15

**Канал "Останкино"**

07.00 "Про Веру и Анфису", "Вера и Анфиса тушат пожар", "Вера и Анфиса на уроке в школе". Мульт. 07.30 Фильм детям "Лети, журавлик" 08.35 На балу у Золушки 09.35 Гол 10.05 Грузия - одна. ч.3 11.30 Играй, гармонь 12.10 Фильмы нашей памяти. "Алёшкина любовь" 13.50 Новости (с сурдопереводом) 14.00 Шире круг 15.30 Клуб путешественников 16.20 "История повторяется..." Премьера док. фильма 17.15 Рискнуть и победить. Телеигра 18.30 Погода 18.45 Сенсации русского театра. М.Захаров, "Безумный день или Женитьба Фигаро" 19.40 Спокойной ночи, малыши 20.00, 23.00,23.50 Новости 20.30 Погода 20.35 Реклама 20.40 Так жить можно. Юмористическая программа М.Задорнова 21.30 Михаил Евдокимов в комедии "Про бизнесмена Фому" 23.05 Звезды в Кремле. В.Третьяков и Ю.Башмет исполняют концертную симфонию для скрипки и альта с оркестром В.-А. Моцарта 00.00 С полки запрещенных. 1989 год - праздничный концерт к 7-му ноября

**Канал "Россия"**

7.00 Вести 7.25 Клип-антракт. Ольга Гетте 7.30 Ура! Каникулы. "Осенние колокола". Худ. ф. 8.50 Премьера док. фильма "Царь и вождь" 9.40 Студия "Рост". Фестиваль "Золотая осень Славутича", ч.2 10.10 "На борцовском Олимпе".Встреча сборной мира и сборной России по вольной борьбе 10.40 "Дворцы и крепости" 11.10 Кинотеатр повторного фильма. "Хмурое утро". Худ. ф. 13.00 Вести 13.20 Домашний экран."Эдера". Худ. телефильм. (Италия), 11-ая серия 14.15 Спасение 911 15.10 Теннис. Кубок Кремля 16.40 "Домино Михаила Боярского" 17.15 Праздник каждый день 17.25 Устами младенца 17.55 Репортер 18.10 Маски-шоу 19.00 Вести 19.25 Детектив по понедельникам. "Спрут-6". Худ.ф. 3-я серия, ч.2 20.30 У Ксюши 21.00 Без ретуши 22.00 Вести 22.20 Автомиг 22.30 Река времени 22.35 Теннис.Кубок Кремля 23.05 Звезды говорят 23.10 Вечерний салон

**Санкт-Пецярбург**

17.55 Крыжыкі-нулікі 18.30 Інфарм TV 18.50 "Рэха над плошчай" Дак.фільм 19.10 Вялікі фестываль 20.20 "Балтыйскі кубак-94". Бальныя танцы 21.20 Тэлемагазін 21.30 Тэлевізійная служба бяспекі 21.40 Ваш стыль 21.50 "Асечка". Тэлеспектакль 23.45 Аўтагонкі

## ВТОРНИК, 08,11

**Беларускае тэлебачанне**

08.00 Навіны 08.10 Дайджэст 08.20 Пяць хвілін на жарты 08.25 "Чарапашкі Ніндзя". Мультсерыял для дзяцей і дарослых 09.15 Дзелавы веснік 9.30 "Паласа Сімарона". Маст. фільм ЗША. Фільм 15 10.45 Беларускі тур. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак 11.05 Чароўны экран. "Доктар Айбаліт". Мульт. 1,2 серыі 11.25 "Бімбат" 11.45 Свет фантастыкі. "Госця з будучыні". Маст. ф. 1 серыя 12.50 Англійскую мову вучым самі. АВС-клуб у Амерыцы 13.05 "Музыка без межаў". Тэлечасопіс 13.50 "Анюціны вочкі і барскія ласкі". Маст.ф. 15.00 "Нов і К" топ-10 16.00 Вывучаем сваю гісторыю. "Еўфрасіння Полацкая". Дак.ф. 16.30 "Бімбат" 17.00 Навіны (з сурдаперакладам) 17.10 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял (Бразілія). 41-я серыя 18.10 Навіны (Віцебск) 18.25 Пяць хвілін на жарты 18.35 Навіны (Бі-бі-сі) 19.10 Эканамікст 19.20 Мост 19.50 Эканамічная хваля. Хто гаспадар беларускіх нетраў? Прамая лінія 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 "Музыка без межаў". Фэст па-нарвежску 22.10 На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Пасля заканчэння - вячэрні ілюзіон "Раман імператара. Дварцовая хроніка". Прэм'ера маст.ф. 1-ая серыя; кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя; дайджэст; Пад купалам сусвету; "Сталіца". Тэлечасопіс

**Канал "Останкино"**

05.30 Утро 06.52, 07.50, 8.50, 9.50, 14.50, 15.50, 17.50, 20.00, 22.50 Новости 07.52 Новости 08.00 Война Гоботов. Мультсериал (Австралия) 08.25 "Дикая Роза". Телесериал (Мексика) 08.52 Новости (с сурдопереводом) 09.00 Ты помнишь, товарищ... 09.30 Сказка о твердом орехе. Мульт. 09.52 Новости 15.00 Веселые нотки 15.30 Волшебный мир или Синема 16.00 Джэм 16.20 "Элен и ребята". Молод. сериал 16.50 Мир сегодня 17.00 Тайны старой площади 17.30 Загадка СБ 17.45 Кто есть кто. XX век. Л.Ландау 18.00 Час пик 18.30 "Дикая Роза". Сериал 18.55 Мы. Авторская программа В.Познера 19.40 Спокойной ночи, малыши 20.40 Из первых рук 20.50 Песня-94 21.35 "Повесть непагашенной луны". Худ.ф. 23.20 В мире джаза 23.40 Авто-шоу 23.52 Прес-экспрес

**Канал "Россия"**

6.30 Формула-730 7.00 Вести 7.20 Требуются... требуются... 7.30 Время деловых людей 8.00 Всемирные новости Эй-би-си 8.25 "Торговый дом" 8.40 Без ретуши 9.35 Клип-антракт. Н.Сенчукова 9.45 "К-2" представляет "Ню" 10.35 Телегазета 10.40 Крестьянский вопрос 11.00 Вести 15.00 Вести 15.20 Новая линия (Уфа- Волгоград) 16.00 Там-там новости 16.15 Праздник каждый день 16.25 Теннис. Кубок Кремля. Трансляция из СКК "Олимпийский" 17.25 "Ваше право" 18.05 L-клуб 19.00 Вести 19.25 Подробности 19.35 "Никто не забыт" 19.45 Киномарафон. "Париж глазами..." Худ.ф. 21.45 Экран криминальных сообщений 22.00 Вести 22.20 Автомиг 22.35 Теннис. Кубок Кремля 23.05 Ночной сеанс. "Яблони". Худ.ф. 00.55 Звезды говорят

**Санкт-Пецярбург**

17.55 Паралельны горад 18.50 Спорт, спорт, спорт 19.10 Вялікі фестываль 20.20 "Прыгажун Джэк". Дак.фільм 20.40 Кансерватар 21.10 Тэлемагазін 21.15 Тэлевізійная служба бяспекі 21.45 Спартыўныя навіны 22.00 Ваш стыль 22.05 "Чэкіст". Маст.фільм 23.35 Фрагмент з балету П.Чайкоўскага "Спячая прыгажуня"

## СРЕДА, 09,11

**Беларускае тэлебачанне**

08.10 Эканамікст 08.20 Пяць хвілін на жарты 08.25 "Раман імператара. Дварцовая хроніка" Маст.фільм, 1 с. 09.45 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял 10.45 "Доктар Айбаліт" Мультфільм, 3 с. 10.55 "Бімбат" 11.25 "Госця з будучыні" Маст.фільм, 2 с. 12.30 "Настальгічны дывертысмент". Перадача 3-я. 13.35 "Ідэальнае злачынства" Маст.фільм 15.10 Відзьма-нявідзьма 16.20 Вывучаем сваю гісторыю. Дак.фільм 16.45 "Бімбат" 17.00 Навіны (з сурдаперакладам) 17.10 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял 18.10 Дзённік Прынёмання (Гр.) 18.20 Гарадніца (Гр.) 19.10 "Карамболь". Ток-шоу 19.40 Радавод 20.00 У нас дома 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 Планета людзей 22.00 На сесіі Вярхоўнага Савета РБ. Пасля заканчэння "Раман Імператара. Дварцовая хроніка" Маст.фільм. 2 с.; Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя; Дайджэст; Пад купалам Сусвету; Рок-айленд.

**Канал "Останкино"**

5.30 Утро 6.50, 7.50, 8.50.,9.50, 14.50., 15.50., 17.50, 20.00., 22.50 Новости 7.00 Продолжение программы "Утро" 8.00 "Война Гоботов". Мультсериал 8.25 "Дикая Роза". Телесериал 9.00 Звездный час 9.40 "Амба". Мультфильм 15.00 Посмотри, послушай 15.20 "Летающий дом". Мультсериал. 15.51 Реклама без публикации 16.00 Синяя птица 16.20 "Элен и ребята". Сериал (Франция) 16.50 Мир сегодня 17.00 Телерадиокомпания "Мир" 17.30 Человек и закон. Спецвыпуск 17.45 Кто есть кто. XX век. Д.Вертов 18.00 Час пик 18.30 "Дикая Роза". Телесериал 18.55 "Два дня и вся жизнь" Премьера 19.40 Спокойной ночи, малыши! 20.30 Погода 20.40 Монолог 20.50 Ален Делон в худ.фильме "Смерть негодяя" (Франция) 23.20 Шесть вечеров с Ю.Никулиным. Вечер 5-й 23.50 Пресс-экспресс

**Канал "Россия"**

6.30 Формула-730 7.00 Вести 7.20 Требуются... Требуются... 7.30 Время деловых людей 8.00 Новости Эй-Би-Си 8.25 Клип-антракт 8.30 "Торговый дом" 8.45 Депеша 9.15 Здорово живёш 9.30 Кино в ноябре 9.45 "Санта-Барбара" 10.35 Телегазета 10.40 Крестьянский вопрос 11.00 Вести 15.00 Вести 15.20 Там-там новости 15.35 Праздник каждый день 15.45 Новая линия: Дальний Восток 16.25 Тенис. Кубок Кремля 17.25 Фильм-премьер 17.40 Хозяин 18.10 "Колеги" 18.20 Звёзды Америки 19.00 Вести 19.25 Подробности 19.35 "Санта-Барбара" 20.30 Виниловые джунгли 21.05 "Берия". Док.фильм 22.00 Вести 22.20 Автомиг 22.25 Тенис. Кубок Кремля 23.05 Экран криминальных сообщений 23.10 Антреприза 00.10 Звёзды говорят

**Санкт-Пецярбург**

17.00 Мініфутбол "Зеніт-84" - Зборная Санкт-Пецярбурга, у перапынку - "Па ўсёй Расіі" 17.50 Спорт, спорт, спорт 19.10 Вялікі фестываль 20.20 Канцэрт, прысвечаны Дню міліцыі 21.15 Тэлевізійная служба бяспекі 21.45 Спартыўныя навіны 21.55 Блеф-клуб 22.30 Ваш стыль 22.40 Працяг канцэрта да Дня міліцыі

## ЧЕТВЕРГ, 10,11

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Навіны 8.10 Пяць хвілін на жарты 8.15 Дайджэст 8.25 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял 9.25 Аўтапарк 9.45 "Раман імператара. Дварцовая хроніка". Маст. фільм, 2 с. 10.35 "Доктар Айбаліт". Мультфільм, 5-6 с. 10.55 "Бімбат" 11710 "Госця з будучыні". Маст.фільм, 3 с. 12.15 "Карамболь". Ток-шоу 12.45 "След лёсу". Дак.фільм. 13.20 Мы гэта можам 14.05 "Груз "300". Маст. фільм 15.25 Тэлебачанне школе. Геаграфія 15.55 "Еўрапейскі калейдаскоп" 16.35 "Бімбат" 17.00 Навіны (з сурдаперакладам) 17.10 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял 18.10 Навіны (Гр.) 18.25 Экалогія і мы (Гр.) 19.05 Рэпартаж з прэс-канферэнцыі кіраўнікоў праваахоўных органаў 19.30 Вытокі 19.45 Чарнобыльская восень 20.30 Калыханка 21.00 Панарама 21.40 "Крок". "Правінцыя" 2-я ч. 22.15 На сесіі Вярхоўнага Савета РБ, пасля заканчэння - Вячэрні ілюзіён. "Раман імператара. Дварцовая хроніка" Маст.фільм 3 с.; Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя; Дайджэст; Пад купалам Сусвету; Стоп-кадр; "Крок": "Супермадэль Беларусі-95"

**Канал "Останкино"**

5.30 Утро 6.50 Новости 7.50 Новости 8.00 "Война Гоботов". Мультсериал 8.25 "Дикая Роза". Телесериал 8.50 Новости 9.00 В мире животных 9.40 "Бояка мухи не обидит". Мультфильм 9.50 Новости 15.00 Что интересного 15.20 Мультероллия 15.50 Новости 16.00 Тет-а-тет 16.20 "Элен и ребята". Сериал (Франция) 16.50 Мир сегодня 17.00 До 16 и старше... 17.30 Миниатюра 17.40 Погода 17.45 Кто есть кто 17.50 Новости 18.00 Час пик 18.30 "Дикая Роза" 18.55 Грэм грин. Авторская программа Г.Боровика 19.40 Спокойной ночи, малыши 20.00 Новости 20.30 Погода 20.40 Москва-Кремль 21.00 Лотто "Миллион" 21.30 Концерт, посвящённый Дню милиции. В перерыве - Новости (22.50) 23.50 Пресс-экспресс

**Канал "Россия"**

6.30 Формула-730 7.00 Вести 7.20 Требуются... Требуются 7.30 Время деловых людей 8.00 Новости Эй-Би-Си 8.25 Клип-Антракт 8.30 Поехали 8.40 Военный курьер 8.55 Совершенно секретно 9.45 "Санта-Барбара" 10.35 Телегазета 10.40 Крестьянский вопрос 11.00 Вести 11.00 Милицейский репортаж 15.00 Вести 15.20 Студия "Рост" 15.50 Там-там новости 16.05 Праздник каждый день 16.15 Тенис. Кубок Кремля 17.15 Будни 17.55 Хроно "В мире авто- и мотоспорта" 18.25 Своя игра 19.00 Вести 19.25 Подробности 19.35 "Санта-Барбара" 20.30 Шестое чувство 21.00 "Никто не забыт" 21.10 Двадцатый век в кадре и за кадром. Л.Филатов. 22.00 Вести 22.20 Автомиг 22.35 Тенис. Кубок Кремля 23.05 "Штемп". Худ.фильм 00.25 Звёзды говорят

**Санкт-Пецярбург**

17.00 Міні-футбол, паўфінал 18.50 Спорт, спорт, спорт 19.10 Вялікі фестываль 19.30 "Шкура". Маст.фільм 20.45 Сёння - Дзень міліцыі 21.05 Тэлемагазін 21.15 Тэлевізійная служба бяспекі 21.45 Спартыўныя навіны 22.00 Ваш стыль 22.05 Вячэрні звон 23.05 "Бацькоўскі дом". Тэлевізійны фільм

## ПЯТНИЦА, 11,11

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Навіны 8.10 Пяць хвілін на жарты 8.15 Дайджэст 8.25 Тэленарыс 9.00 Телебачанне школе. Геаграфія 9.30 "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял 10.30 "Раман імператара. Дварцовая хроніка". Маст.фільм 3 с. 11.25 "Доктар Айбаліт". 7 с. 11.35 "Бімбат" 12.00 "Госця з будучыні". Маст.фільм. 4 с. 13.05 "Чароўная птушка". Мульфільм 13.15 Мы гэта можам 14.05 "Прахіндзіяда ці бег на месцы". Маст. фільм 15.30 Я+Я. Мужчына і жанчына 16.10 "Кірыла тураўскі". Дак.фільм 16.40 "Бімбат" 17.00 Навіны 17.20 Вяскоўцы. Сам сабе гаспадар. 17.45 "Удача". Тэлеклуб 18.10 Дзённік Прынёмання (Гр.) 18.25 Толькі па пятніцах (Гр.) 19.20 Хакей. Кубак Еўропы. "Цівалі" (Мінск) - "Фельдкірх" (Аўстрыя), 2-3 перыяды, у перапынку "Калыханка" 21.00 Панарама 21.40 "Тэлесябрына" 21.55 На сеісіі Вярхоўнага Савета РБ. Пасля заканчэння "Раман імператара. Дварцовая хроніка". Маст.фільм. 4 с.; Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя; Дайджэст; Пад купалам Сусвету; Неверагодны заклад, ці сапраўднае здарэнне, якое пасяхова завяршылася 100 гадоў таму". Маст.фільм

**Канал "Останкино"**

5.30 Утро 6.50, 7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 17.50, 20.00, 22.50 Новости 8.00 "Сорока" 8.20 "Дикая Роза" 9.00 Огород круглый год 9.30 Китай. Взгляд из провинции 15.00 "Питер Пен". 1 с. 16.30 Рок-урок 16.50 Мир сегодня 17.00 Человек и закон 17.30 Поёт С.Дружинин 17.45 Кто есть кто. XX век. П.Карден 18.00 Бомонд 18.25 "Дикая Роза" 18.50 Поле чудес 19.40 Спокойной ночи, малыши 20.30 Погода 20.40 Человек недели 21.00 "Улицы Сан-Франциско". 10 с. 22.00 Единственный дубль 23.05 Музобоз 23.50 Пресс-экспресс 00.00 "Пинк Флойд". Мировое турне

**Канал "Россия"**

6.30 Формула-730 7.00 Вести 7.20 Требуются... Требуются... 7.30 Время деловых людей 8.00 Новости Эй-Би-Си 8.25 Мульти-пульти. "Ай, милая сестрица" 8.35 Поехали 8.45 Киноглаз "Восковые персоны" 9.45 "Санта-Барбара" 10.35 Телегазета 10.40 Крестьянский вопрос 11.00 Вести 15.00 Вести 15.20 Студия "Рост". "Веер" 15.35 Там-там новости 15.50 Праздник каждый день 16.00 Тенис. Кубок Кремля 16.55 Дисней по пятницам. "Гектор - безбилетный пассажир". Худ. фильм. 2 с. 17.55 Клип-антракт 18.05 Лавка миров. Альманах совр. фонтастики 19.00 Вести 19.25 Подробности 19.35 "Санта-Барбара" 20.30 Сам себе режиссёр 21.05 К-2 представляет: перпендикулярное кино 22.00 Вести 22.20 Автомиг 22.35 Тенис. Кубок Кремля 23.05 "Дом свиданий". Худ.фильм. 00.25 Звёзды говорят.

**Санкт-Пецярбург**

18.50 Спорт, спорт, спорт 19.10 Вялікі фестываль 19.25 "Мой сябар - Іван Лапшын". Маст.фільм 21.10 Тэлемагазін 21.15 Тэлевізійная служба бяспекі 21.45 Спартыўныя навіны 21.55 Храм 22.25 Ваш стыль

## СУББОТА, 12,11

**Беларускае тэлебачанне**

08.00 Навіны 08.10 Эканамікст 08.20 Пяць хвілін на жарты 08.25 Аэробіка для ўсіх. Урокі Н.Наважылавай 09.05 "Неверагодны заклад ці Сапраўднае здарэнне, якое пасяхова завяршылася сто гадоў таму". Маст.ф. 10.25 Здароўе. Прамая лінія 11.10 Дваццаць мінут рэдактара 11.30 "Раман імператара. Дварцовая хроніка". Маст.ф. 4-я серыя 12.35 Паказвае Гомель 13.25 "Лулу - анёл кветак". Мульт. 13-я серыя 14.00 Шматгалоссе. Народы Беларусі 14.45 Беларускі кінематограф: Мінулае і сучаснае. "Іван Макаравіч". Маст.ф. 16.35 Дзелавы веснік 16.50 "Чарапашкі Ніндзя". Мульт. 17.15 Песеннае поле ў імя святой Еўфрасінні 17.50 Міжнародныя спартыўныя навіны 18.20 "Нов і К" топ-10 19.20 Хакей. Кубак Еўропы "Цівалі" (Мінск) - "Дэвілз" (Вялікабрытанія). У перапынку - калыханка 21.00 Панарама 21.35 Пяць хвілін на жарты 21.40 "Хачу вашага мужа". Маст.ф. 22.55 Пад купалам сусвету 23.00 Каскад 23.25 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыа. 00.25 Фільмы-прызёры міжнародных фестываляў. "Атлантык-сіці". Маст.ф. (Канада-Францыя) 02.05 Лета фестывальнае. "Славянскі базар-94". Канцэрт артыстаў балгарскай эстрады.

**Канал "Останкино"**

06.30 Субботнее утро делового человека 07.15 Спорт-шанс 07.45 Слово пастыря. Митрополит Кирилл 08.00 Марафон-15 малышам 08.30 Межгосударственная телерадиокомпания "Мир" представляет: "Спектр". Информационный выпуск о важнейших событиях недели стран СНГ 10.00 Утренняя почта 10.30 Я- женщина 11.00 Без паузы 11.15 Смак 11.30 Актеры и судьбы. Худ.ф. "Афоня" 13.20 Книжный двор 13.52 Новости (с сурдореповодом) 14.00 Диалог в прямом эфире 14.40 "Постижение демократии". Фильм 6 15.40 Охранная грамота 16.15 В мире животных. "Жизнь зоопарков". Телесериал (США) 16.55 Брейн-ринг 17.45 До и после... Ведущий В.Молчанов 18.40 Телесериал "Команда в шляпах". 5 серия (США) 19.40 Спокойной ночи, малыши 20.00 Новости плюс 20.35 Погода 20.45 Телесериал "Хозяин Баллантре". 2-я серия 21.45 Оба-на 22.25 Погода 22.30 Новости 22.40 Матадор 23.30 Хит-парад "Останкино"

**Канал "Россия"**

7.00 Вести 7.25 Мульти-пульти 7.35 "Риминские каникулы" 8.05 Пилигрим. Российское бюро путешествий 8.50 "Соотечественники". "Ворота в рай" 9.20 Парламентская неделя 10.05 Телеэрудит 10.10 Обратный адрес. Ведущий Г.Долгов 10.55 Киномарафон. "Аниматограф" 12.25 Де факто 12.40 Теннис. Кубок Кремля 13.00 Вести 13.20 Теннис. Кубок Кремля 14.50 "Музыка на десерт". "Помнишь ли ты?" 15.05 Футбол без границ 15.50 Телеэрудит 15.55 Домашний экран. "Эдера". Худ. ф. (Италия). 12-я серия 16.50 Премьера мульт. "Собор Парижской Богоматери" 17.50 Праздник каждый день 18.00 Аншлаг и Ко 19.00 Вести 19.25 "Евразия-ТВ" представляет: "Опыты любви". Худ. ф. 21.10 Клип-антракт. Группа "Дюна" 21.25 Теннис. Кубок Кремля 22.00 Вести 22.20 Автомиг 22.35 Программа "А" 23.35 Звезды говорят 23.40 Ночной сеанс. "Город". Худ. ф.

**Санкт-Пецярбург**

18.10 Экспрэс-кіно 18.30., 21.30 Інфарм TV 18.50 "Трамвай і рэйкі" Дак. фільм 19.10 Вялікі фестываль 19.25 "Страсьці". Тэлесерыял 21.00 "Густаў". Мультфільм 21.45 Ваш стыль 21.55 "Не хочаш - не глядзі" 23.05 "Таганскае танга"

## ВОСКРЕСЕНЬЕ, 13,11

**Беларускае тэлебачанне**

08.00 Добрыя весткі 08.10 Аэробіка для ўсіх. Урокі Н.Наважылавай 08.40 Пяць хвілін на жарты 08.45 Беларускі тур. Падарожжы, сустрэчы, адпачынак 09.35 Урокі здароўя 10.15 "Алімпійцы сярод нас. Фестываль выхаванцаў дашкольных устаноў г. Мінска. 11.00 АВС-клуб. Англійскую мову вучым самі 11.20 Дайнова-інвест: MTV. Лепшыя хіты 11.50 "Случанка". Паэзія В.Акалавай 12.30 Існасць. Духоўная праграма 13.05 Кінаэкран-94. Лістапад 14.05 Майстэрня. Мастак Я.Жылін 14.40 "Сітуацыя". Амаль дэтэктыўная гісторыя 15.15 Клуб-"Гаў-гаў" 15.40 Праспект. Інфармацыйна-аналітычная праграма 16.10 "Чарапашкі ніндзя". Мульт. 16.35 Анталогія гумару. "Усё для смеху".2 с. 17.10 Любімыя камедыі. "Луі дэ Фюнес у фільме "Оскар" 18.30 Хакей. Кубак Еўропы. "Цівалі" (Мінск) - "Дукла" (Славакія) 21.00 Панарама 21.35 Пяць хвілін на жарты 21.40 Шоу "Палігон" 22.05 "Сінема" прадстаўляе кінематограф Францыі 22.10 "Банкірка".Маст.ф. 00.20 Пад купалам сусвету 00.30 Чэмпіянат Беларусі па культурызму

**Канал "Останкино"**

07.15 Олимпийское утро 07.50 Спортлото 08.00 Марафон-15 08.30 С утра пораньше 09.00 Полигон 09.30 Пока все дома 10.00 Утренняя звезда 10.50 Под знаком пи 11.35 X Международный фестиваль телевизионных программ народного творчества "Радуга". Песни моего народа (Албания) 12.15 Экономика и реформы 12.40 "Шпаргалка" с подарком 13.00 "Подводная Одиссея команды Кусто". Сериал 13.52 Новости (с сурдопереводом) 14.00 "Стратегия победы". Док. сериал. ф.7 14.50 Живое дерево ремесел 15.00 Клуб путешественников 15.50 Современники о Леониде Когане 16.30 Америка с М.Таратутой 17.00 Новости 17.10 Телелоция 17.25 "Баскетбольная лихорадка", "Настоящие охотники за привидениями". Мульт. (США) 18.20 Вся Россия 19.00 КВН-94 21.00 Воскресенье. Информационно-публицистическая программа 21.50 Спортивный уик-энд 22.05 Вокзал мечты. Ю.Башмет 22.52 Новости 23.05 Любовь с первого взгляда 23.52 Новости 00.00 Музобоз

**Канал "Россия"**

7.00 Вести 7.25 Студия "Рост". "Вспоминая Драгунского" 7.55 Лучшие игры НБА 8.50 Шесть соток 9.10 Доброе утро, Европа 9.40 Атыбаты... 10.10 Русское лото 10.55 Кинофестиваль: "День Победы". "Радуга". Худ.ф. 12.40 Теннис. Кубок Кремля 13.00 Вести 13.20 Теннис. Кубок Кремля 14.50 "Не вырубить..." Ведущий Б.Коптев 15.05 Домашний экран. "Эдера". Худ.ф. 13-я серия 16.00 В мире животных. Ведущий - Н.Дроздов 17.00 Волшебный мир Диснея. "Гуффи и его команда", "Черный плащ". 17.55 Праздник каждый день 18.05 Мульти-пульти 18.15 "Шербурские зонтики при ясной луне". Мишель Легран 19.00 Вести 19.25 Премьера телеэкрана. "На муромской дорожке". Худ.ф. 21.05 Коробка передач 21.25 У Ксюши 22.00 Вести 22.20 Автомиг 22.35 Теннис. Кубок Кремля 23.05 Звезды говорят 23.10 Чемпионат мира по автогонкам в классе "Формула-1". Гран-при Австралия 22.35 "Двое ў крузе". Маст.фільм (ЗША)

**Санкт-Пецярбург**

18.20 Фільмы В.Акунцова. "Камедыянты" 19.30 Інфарм TV 19.50 "Ка-ка-ду". Маст.фільм 20.55 Ваш стыль 21.20 "Мы толькі знаёмыя". Музычны фільм 22.00 Адамаў яблык 23.00 Гульні Добрай Волі-94

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**Апошнія дні кастрычніка сталі рэкорднымі на крымінальныя падзеі. Упершыню колькасць злачынстваў і здарэньняў дасягнула лічбы 252. У іх ліку 3 забойствы, 17 цялесных пашкоджаньняў (з іх 2 - выклікалі сьмерць), 14 рабаваньняў, разбой, 47 крадзяжоў дзяржаўнай і 96 - асабістай маёмасьці грамадзян.**

**У 23-х дарожных здарэньнях 5 чалавек загінула і 20 паранена. Тры аварыі - на сумленьні нецьверозых вадзіцеляў.**

**За гэты ж час у вобласьці адбыліся 4 пажары.**

### ЗАБОЙСТВЫ

Сцэнары крывавых паядынкаў, як дзьве кроплі вады падобны адзін да аднаго.

У в.Кір'янаўцы Лідзкага р-на 60-гадовы будаўнік калгаса "Бердаўка" падчас распіцця моцных напояў у сваім доме, зусім несаслідоўна паступіў з 30-гадовым аднавяскоўцам: нанёс яму удар нажом у сэрца, ад якога той на месцы памёр.

* * *

Амаль такое ж забойства было ўчынена ў в.Барысаўка Шчучынскага р-на.

Падчас узьнікшай сваркі 32-хгадовы жыхар в.Квасоўка Гарадзенскага р-на стрэліў з паляўнічай стрэльбы ў 53-хгадовага жыхара вабласнога цэнтра, які быў шпіталізаваны, але ў той жа дзень памёр.

### РАБАВАНЬНІ

Нягледзячы на тое, што шэраг злачынцаў-рабаўнікоў міліцыяй затрымліваецца, у Горадні ўсё ж працягваюцца злачынствы, падчас якіх прадметам замаху становяцца жаночыя сумачкі.

Так, на перакрыжаваньні вуліц Болдзіна і БЛК, каля 21 гадзіны, рабаўнік вырваў сумачку з грашыма і дакументамі з рук медсястры друскеніцкага санаторыя "Беларусь".

* * *

Прыкладна ў гэты ж час на Азёрскай шашы злачынца гэткім жа чынам абрабаваў жыхарку Горадні. Страты амаль такія ж: расейскія рублі, "зайцы", парасон.

* * *

У Смаргоні пацярпеў прапаршчык-вайсковец, які меў неасцярожнасьць на падпітку наведаць грамадзкую прыбіральню на чыгуначным вакзале. У выніку кішэні вайскоўца "палягчэлі" на 400 тысяч расейскіх рублёў, 15 тысяч "зайцоў" і ў дадатак чацьвёрка злачынцаў дала волю рукам...

### КРАДЗЯЖЫ

Самымі "моднымі" крадзяжамі тыдня, як было жо не раз, сталі крадзяжы з легкавікоў: магнітолаў, ветравога шкла і розных запчастак. Усяго было зьдзейснена 19 аўтазлачынстваў, з іх 18 - у Горадні.

Рэкордная стала ноч з серады на чацьвер, калі адразу пяць аўтаўладальнікаў зьвярнуліся з заявамі ў міліцыю.

Ёсьць тут і заканамернае да іх пытаньне: ці мэтазгодна выпрабоўваць лёс, пакідаючы ноччу без нагляду чатырохколавых "коней" на вуліцы?

### РАЗБОЙ

У Лідзе чацьвёра злачынцаў вечарам пазванілі на кватэру нідзе не працуючага жыхара. Калі гаспадар адкрыў дзьверь, разбойнікі, з якіх трое ў масках з панчох, уварваліся ў кватэру і пагражаючы пісталетам і нажом, зьвязалі 36-гадовага мужчыну і яго жонку, а потым вынеслі з кватэры нямала залатых і срэбраных вырабаў, дзьве скураныя курткі і наручны гадзіньнік.

### МЕДЗЬ І МЁД

Медзяныя крадзяжы рэгістраваліся на тыдні амаль кожны дзень.

У Горадні гэты дэфіцытны метал скралі са сталярнага цэху трэста "Будбытрамонт" - 100 метраў медзянога дроту; у Шчучыне - 50 метраў медзянога кабелю скралі з кацельнай камунальнай гаспадаркі; у Воранаўскім р-не падчас аперацыі "Траса" міліцыянтамі быў затрыманы легкавік літоўскага грамадзяніна, які на "Аўдзі" спрабаваў вывезьці 200 кг алюмінію і 20 кг медзі.

Самы ж гучны медзяны крадзёж зарэгістраваны ў Ашмянах. Там праведзена "двайная" экспрапрыяцыя: са склада завода харчовых канцэнтратаў было скрадзена 1,5 тоны медзі, якая была канфіскавана мытняй і здадзена ...на захаваньне.

Яшчэ адзін "экспартны" тавар быў скрадзены са склада калгаса "Уперад" Слонімскага р-на. І хаця сьлядоў узломаў не знойдзена, 165 кг мёду зьнікл, як у ваду...

### РАЗЯВАЦТВЫ

У Горадні ў міліцыю зьвярнуліся трое грамадзян, якія сталі ахвярамі ў выніку асабістай нядбайнасьці. Але калі агенту па прыватызацыі і майстру завода "Радыёприбор" можна паспачуваць, бо кашалькі з грашыма скралі з кабінетаў, хаця і незачыненых, то толькі ўсьмешку можа выклікаць заява трэцяга пацярпелага, 20-гадовага студэнта хіміка-тэхналагічнага тэхнікума. На падпітку ён заснуў на вуліцы Заводкай, а калі прачнуўся - ні скуранай курткі, ні шлюбнага пярсцёнка...

### КАНФУЗ

Неспадзявана шпіталізацыяй скончылася спроба двух вартаўнікоў калгаса "Шлях Леніна" Шчучынскага р-на разжыцца на дармаўшчыну палівам. Ноччу вартаўнікі, знаходзячыся на працы (!), залезлі ў калгасны гараж і пачалі "даіць" грузавік. Але было цёмна, і зламысьнікі вырашылі пасьвяціць запалкамі...

Вынік сумны: грузавік згарэў цалкам, гараж - часткова, а злодзеі атрымалі апёкі.

### КРЫМІНАЛЬНЫЯ ВЫНАХОДНІЦТВЫ

Адкрываючы гэтую рубрыку, рэдакцыя "Пагоні" мае мэту не падказваць злачынцам, як трэба красьці, а папярэджваць законапаслухмяных грамадзян - не рабіце так, як гэта зрабілі ніжэйпералічаныя асобы...

З гаража гарадзенскага прадпрымальніка, размешчанага каля аўтазапраўкі "Вішнявец" скрадзены 5000 пар калготак і 20 куртак. У гараж злачынцы пранікілі шляхам разбора сьцяны. ВЫСНОВА: не захоўвайце каштоўнасьці ў гаражах - гэта не склад.

* * *

Калі сярод белага дня ў дзьверы шапіка "Белсаюздрука" па вул.Савецкай пастукалі, кіяскёр адвярнулася, каб адчыніць. Гэтага часу хапіла, каб рабаўнік схапіў з шапіка дзённую выручку і ўцёк. На шчасьце, злачынцы - двое непаўналетніх - затрыманы. ВЫСНОВА: будзьце пільнымі, не пакідайце грошы без нагляду.

У.ДАНІЛОВІЧ.





*ДАЖЫЛІСЯ!*

## САТАНІНСКАЯ НОЧ

...Стагналі магілы, падалі і разбіваліся аб зямлю помнікі, выдзіраліся крыжы, вытоптваліся кветкі... Была звычайная восеньская ноч, і шчучынцы бачылі сны. Толькі жменьцы вылюдкаў не спалося: яны "весяліліся" на старых каталіцкіх могілках...

Раніцай у нядзелю, прыйшоўшы пакланіцца праху блізкіх, людзі драньцьвелі ад жаху: чалавечы мозг ня мог усрыняць убачанае: каля дваццаці магіл былі амаль што зьнішчаны!

З-пад абломкаў помнікаў выглядвалі фотаздымкі, выдраныя крыжы ўбіты ў зямлю другім канцом... Нелюдзі абразілі нават маленькія дзіцячыя магілкі...

Хто ж спакусіўся на сон і спакой памерлых? На сьвяшчэннае месца, што зьвязвае нас са сваім мінулым і не дае забыцца, хто ты і адкуль? Гэтае пытаньне сёньня баліць у душы кожнага нераўнадушнага чалавека, не дае спакою жыхарам Шчучына. Што гэта? П'яны разбой, "жарты" падлеткаў? Ці добра падрыхтаванае злачынства - сатанінскі шабаш, які, згодна павер'ю, праходзіць напярэдадні рэлігійнага сьвята Ўсіх Сьвятых?

На ўсе гэтыя пытаньні, спадзяемся, дадуць адказ праваахоўныя ворганы. А пакуль... Пакуль несуцешныя маці паліваюць сьлязьмі зруйнаваныя, дарагія сэрцу холмікі - магілы сваіх дзетак, жыцьцё якіх абарвалася несправядліва рана, і праклінаюць нелюдзяў з сатанінскімі душамі... У аўтобусах, на працы, у магазінах людзі шлюць праклёны вандалам, чыя рука ўзьнялася на самае сьвяшчэннае і дарагое - памяць.

Няхай справядлівая кара людская стане толькі малой часткай той страшнай кары, што пашле наваяўленым "сатаністам" усемагутны Божа.

А.БІБІКАВА.
Фота С.ЯХІМЧЫКА.

## УЛАДЗІМІР ВЫСОЦКІ І МАРЫНА ВЛАДЗІ - БЕЛАРУСЫ

Як высвятляюць дасьледчыкі, дзед знакамітага расейскага акцёра і барда У.Высоцкага паходзіў з Берасьця. Бацька яго другой жонкі М.Владзі паходзіў таксама з Беларусі. Месца яго нараджэньня - Наваградчына. Да Францыі спадар Владзі трапіў у маладыя гады падчас Першай Сусьветнай вайны, калі служыў у Расейскім экспедыцыйным корпусе яго імператарскай Высокасьці.

(Ул.інф.)

## І.РЭПІНУ ПРЫСЬВЯЧАЕЦЦА

З 31-га кастрычніка сёлетняга году на тэрыторыі нашай дзяржавы ўвялася да дзеяньня сцэпка дзьвух мастацкіх марак, прысьвечаных 150-годдзю з дня нараджэньня І.Рэпіна. На першай марцы сцэпкі адлюстраваны музей-сядзіба мастака, на другой - выявы яго малюнка "Беларус".

## ПЛЕБАНІЯ НА МЕСЦЫ ГАРАЖОЎ

На тэрыторыі Базылікі меньшай - Фарным касьцёле Горадні - каталіцкай эпархіяй распачата будаўніцтва плебаніі - касьцёла-інтэрната для ксяндзоў.

Гатэль-інтэрнат, пасьля заканчэньня будаўніцтва будзе выкарыстоўвацца не толькі як жытло, а і як рэзідэнцыя для высокіх гасьцей.

## ЗНОЎ ЧЭРГІ

Раньнія замаразкі не ахалодзілі ахвоты гарадзенскіх камерсантаў-чаўнакоў парнейшаму наведваць торжышчы суседняй Польшчы.

Напрыканцы кастрычніка чарга жадаючых паехаць уласным легкавіком на гандаль да Беластоку сягнула на аўтапераходзе Брузгі некалькіх кіламетраў у даўжыню.

Каб апынуцца на запланаваным замежным рынку, ахвочаму прыходзіцца прастаяць больш за суткі.

## ЗАМЕСТ АДНАГО - ДВА

Афіцыйны пратэст-забарона расейскіх піваравўаў прадукаваць на тэрыторыі Беларусі піва "Жыгулёўскае" ня мела фактычна аніякіх наступстваў для піваравўаў Горадні.

Гарадзенцы хуценька перапрафілівалі свае бравары на выраб фірмовых беларускіх гатункаў гэтага напою.

Майстар вытворчага цэху спадарыня Агафонава згадала: "На прэтэнзіі расейцаў мы адказалі новымі сартамі піва - "Каложскае" і "Белая Русь", зараз у распрацоўцы тэхналогіі яшчэ некалькіх менавіта чыста нацыянальных беларускіх гатункаў піва, якія вельмі хутка зьявяцца на прылаўках крамаў Горадні і рэспублікі".

## ГУЧЫЦЬ «МОНСТР»

Пробная партыя радыёпрыёмнікаў для офісаў "Монстр" сабрана на гарадзенскім заводзе "Радыёприбор". Загадчык аддзелу рэкламы завода А.У.Абалеўская сказала карэспандэнту "Пагоні": "Мы плануем сваімі радыёпрыёмнікамі стварыць добры настрой у камерсантаў, дылераў, запоўніць інфармацыйны вакум у іх офісах пры дапамозе нашага транзістара".

## ПАЧАКАЕМ ШАСНАЦЦАТАГА

Здаецца дабягае лагічнага канца зацянуўшыйся канфлікт з-за нявыплаты Менскім ХК "Цівалі" кампенсацыі за гульцоў іншым беларускім клубам.

На пляларным пасяджэньні Прэзідыума федэрацыі хакею Беларусі прынята рашэньне: даць магчымасьць менчукам разлічыцца з крэдыторамі да 16-га лістапада.

У выпадку нявыплаты запазычанасьці, Федэрацыя хакею Рэспублікі Беларусь выключыць клуб "Цівалі" як члена федэрацыі са сваіх шэрагаў, што пагражае клубу дыскваліфікацыяй з розыгрышу кубка МХЛ і кубка Эўрапейскіх чэмпіёнаў.

Нягледзячы на складанасьці, "Цівалі" працягвае выступаць на чэмпіянаце МХЛ, дзе пасьля трох запар паражэньняў здабыла ачко ў гульні на сваёй пляцоўцы супраць СКА з Санкт-Пецярбурга.

У кубку МХЛ наступіў перапынак у сувязі з удзелам большасьці каманд у паўфінале кубка Эўрапейскіх чэмпіёнаў.

Г.Н.

## КУБАК - У «АМКАДОРА»

У Горадні завяршыліся фінальныя гульні розыгрышу кубка Беларусі сярод жаночых каманд па валейболу.

У турніры ўзялі ўдзел акрамя гаспадароў - клуба "Нёман" яшчэ сем калектываў. Пасьля трохдзённай барацьбы ганаровы трафей заваявалі дзяўчаты са сталічнага клуба "Амкадор".

## «ІНФАРМСЭРВІС» ФУНДУЕ

На лётнай базе старога аэрапорту ў Горадні прайшлі спаборніцтвы Гарадзенскага парашутнага клуба. У спаборніцтвах брали ўдзел каля 50-ці парашутыстаў, якія выканалі па тры залікавых скачкі на трапнасьць прызямленьня. У выніку, тым, хто пасьпяхова справіўся з заданьнем, уручаны пасьведчаньні парашутыстаў-прафесіяналаў.

Спонсарам спаборніцтваў выступілі фірма "Інфармсэрвіс", завод Карданных валаў і гарадзенскае аддзяленьне банку "Беларусь".

Ул. інф.

## КІМ - ЧЭМПІЁН?

Мінулы тур футбольнага чэмпіянату Беларусі ня ўнёс істотных зьмен у турнірную табліцу. Па-ранейшаму яе ўзначальвае "КІМ", які пасьля перамогі ў Салігорску (1:0) над "Шахцёрам" мае ў актыве 23 ачкі. Сьледам ідуць тры сталічныя клубы, якія, гуляючы ў гасьцях, атрымалі перамогі. "Дынама" перамагло "Гомсельмаш" (2:0), "Дынама-93" з такім жа лікам выйграла ў магілёўскага "Тарпеда", а сталічныя аўтазаводцы з буйным лікам (7:0) "тарпедзіравалі" ў Віцебску "Лакаматыў". Гарадзенскі "Нёман" пасьля перамогі ў Бабруйску над "Фандокам" падняўся на пяты радок.

Астатнія гульні прынесьлі наступныя рахункі: "Абутнік" - "Дынама" (Бр.) - 2:0, "Маладзечна" - "Цыньнік" - 0:0, "Ведрыч" - "Днепр" - 1:0.

Галоўная падзея апошняга тура - паядынак у Віцебску, дзе КІМ у вочнай гульні з чэмпіёнам пастараецца даказаць сваё права на лідэрства.

Г.Д.

"ПАГОНЯ"
РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры передруку спасылка абавязкова.
Індэкс 63124. Ліцэнзія № 465.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская вабласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 4281.
Наклад 4628 паасобнікаў.